*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 3 (638) 21 СТУДЗЕНЯ 2004 г.

## Менскія ўлады пераводзяць ТБМ у разрад беспрытульных,

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
АДМІНІСТРАЦЫЯ ПАРТЫЗАНСКАГА РАЁНА г. МІНСКА

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
АДМИНИСТРАЦИЯ ПАРТИЗАНСКОГО РАЙОНА г. МИНСКА

ГОСУДАРСТВЕННОЕ УНИТАРНОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ
"ЖИЛИЩНОЕ РЕМОНТНО-ЭКСПЛУАТАЦИОННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ ПАРТИЗАНСКОГО РАЙОНА г. МИНСКА"
г. Минск, ул. Антоновская, 7. Тел.: 236-34-51, факс: 236-85-00

От 10.01.04 № 02
на ______ от ______

Председателю Общественного объединения «Товарищество белорусского языка имени Франциска Скорины» Трусову О.А.

Уважаемый Олег Анатольевич.

УП «ЖРЭО Партизанского района г.Минска» ставит Вас в известность, что договор аренды на нежилые помещения по адресу: ул.Румянцева,13 заканчивается 04.03.2003г. и продлен не будет в виду необходимости дополнительного размещения служб ЖЭС-12 по данному адресу. В связи с изложенным, Вам необходимо по окончании указанного срока освободить арендуемые помещения и сдать согласно приемо-сдаточного акта в ЖЭС-12.

Директор УП «ЖРЭО Партизанского района г. Минска» О.В.Прокопович

Марушко 236-01-11

Такі ліст аб фактычным высяленні ТБМ з Румянцава, 13 паступіў 12 студзеня ў сядзібу ТБМ. Назаўтра старшыня ТБМ Алег Трусаў і старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ Алена Анісім сустрэліся з кіраўніком адміністрацыі Партызанскага раёна сп. Сямашкам і перадалі яму афіцыйны ліст, аднак пытання вырашыць не ўдалося, больш таго сп. Сямашка паведаміў, што для ТБМ у Партызанскім раёне вольнага месца няма.

Алег Трусаў і Алена Анісім накіравалі ліст кіраўніку Менска М. Паўлаву з просьбай прыняць іх, як мага хутчэй, па пытанні арэнды памяшкання на Румянцава, 13.

ТБМ пачало збор подпісаў на адрас сп. Паўлава з патрабаваннем неадкладна і станоўча вырашыць пытанне з сядзібай Таварыства.

*(Працяг тэмы на ст. 5.)*

## ... а ў Нацыянальным сходзе падтрымліваюць ініцыятывы Таварыства

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ
Камісія па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу
220010, г. Мінск, Дом Урада.
тэл./факс (017) 222-65-45, факс (017) 227-37-84
E-mail: aduk@belarus.minsk.by



НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ
Комиссия по образованию, культуре, науке и научно-техническому прогрессу
220010, г. Минск, Дом Правительства,
тел./факс (017) 222-65-45, факс (017) 227-37-84
E-mail: aduk@belarus.minsk.by

16 января 2004 г. № 20-3/16
на № 229 от 11 декабря 2003.

**Старшыні Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Трусаву А. А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

У Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу разгледжаны Ваш ліст з запытам аб тэрмінах унясення змяненняў у дзеючае заканадаўства аб мовах.

Паведамляем Вам, што ў цяперашні час дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Здановічам У. М. і Катляровым І. В. вядзецца работа па падрыхтоўцы праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", у ходзе якой будуць улічаны прапановы. Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны па гэтым пытанні. Акрамя таго, камісіяй па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу ў ліпені месяцы мінулага года была ўнесена ў Нацыянальны цэнтр заканапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, а ў лістападзе пацверджана яшчэ раз настойлівая прапанова аб уключэнні згаданага праекта Закона ў План падрыхтоўкі законапраектаў на 2004 год. У выпадку станоўчага вырашэння пытання аб уключэнні праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" у згаданы План законапраект можа быць разгледжаны Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ужо на чарговай восьмай сесіі вясной бягучага года.

Старшыня камісіі І. В. Катляроў.

# ГІСТОРЫІ СУМЛЕННЫ ЗНАЎЦА

## Юбілей Анатоля Грыцкевіча

Вельмішаноўны Анатоль Пятровіч!

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" мае за шчасце павіншаваць Вас, знанага грамадскага і палітычнага дзеяча, доктара гістарычных навук, прафесара, загадчыка кафедры гісторыі Беларусі і музеязнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, старшыню "Згуртавання Беларусаў Свету "Бацькаўшчына", сябра Рады ТБМ, — з Днём нараджэння, 75-гадовым юбілеем.



За лічбай пражытых гадоў важкі набытак таго, што зроблена. Вам належаць даследаванні па гісторыі Беларусі феадальнага перыяду і часоў барацьбы за незалежнасць у 1918-1920 гг., гісторыі беларускай культуры, рэлігіі і царквы, генеалогіі беларускіх ды літоўскіх магнацкіх і шляхецкіх родаў, па гісторыі беларускіх татараў. На сённяшні дзень Вы маеце 1128 навуковых публікацыяў, у тым ліку 6 манаграфіяў. Вам належыць распрацоўка навуковай канцэпцыі гісторыі Беларусі ў кантэксце сусветнай гісторыі. Вы годна рэпрэзентуеце беларускую навуку на міжнародных канферэнцыях у розных краінах свету. Ваша прынцыповая пазіцыя ў ацэнцы гістарычных падзей краіны шмат у чым не супадае з афіцыйным пунктам погляду, але гэта не замінае аргументавана і доказна данесці беларускаму народу праўдзівую гісторыю. Вы знаходзіцеся ў авангардзе адраджэнцаў, патрыётаў Беларусі, якія бароняць ад незычліўцаў наш Беларускі Дом. Вам уласцівыя гарманічнасць і веліч Асобы.

Таварыства беларускай мовы ганарыцца, што ў яго шэрагах актыўна працуе адзін з вядучых гісторыкаў краіны і адзін з заснавальнікаў нашага грамадскага аб'яднання.

Дай Вам Божа здароўя, творчага неспакою, добрай фізічнай формы ў шматграннай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны.

*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.*

*(Пра А. Грыцкевіча чытайце на ст. 2-4.)*

## Паседжанне Рады ТБМ

**Чарговае паседжанне Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" адбудзецца 1 лютага 2004 года ў Менску па адрасу: Варвашэні, 8 у 11.00. Пачатак рэгістрацыі ў 10.30.**

## *Шаноўныя сябры!*

Пастаянная камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу гатова вынесці на разгляд сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь змены ў Закон аб мовах Рэспублікі Беларусь, дзе будуць улічаны прапановы ТБМ.

Просім выказаць падтрымку Камісіі, для чаго трэба накіроўваць лісты, факсы, электронныя лісты на адрасы:

**220010, г. Мінск, Дом Ураду.**
**Тэл/факс (017) 222-65-45, факс (017) 227-37-84.**
**E-mail: aduk@belarus.minsk.by.**
**Камісія па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.**

*Сакратарыят ТБМ.*



№ 3 (638) 21 СТУДЗЕНЯ 2004 г. наша слова

# АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ

## Наша даведка

Анатоль Пятровіч Грыцкевіч нарадзіўся 31 студзеня 1929 г. у Менску. Род яго паходзіць з Случчыны, дзе продкі жылі на працягу некалькіх стагоддзяў.

У 1950 г. скончыў Менскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. Працаваў лекарам ва Ўрачэбна-санітарнай службе на Беларускай чыгунцы. Адначасова вучыўся завочна і скончыў Менскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моваў з "чырвоным" дыпломам (1955 г.) і гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1958 г.). З 1959 г. працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР спачатку малодшым, а з 1965 г. — старэйшым навуковым супрацоўнікам у сектары гісторыі Беларусі дасавецкага перыяду. Без навуковага кіраўніка падрыхтаваў і ў 1964 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Сацыяльна-эканамічнае развіццё прыватнаўладальніцкага горада Беларусі ў XVI — XVIII стст. (Па матэрыялах Слуцка)". У 1966 г. атрымаў вучонае званне старэйшага навуковага супрацоўніка.



*Анатоль Грыцкевіч у 1952 г.*

У 1975 г. перайшоў на педагагічную працу ў новаствораны Менскі інстытут культуры (з 1993 г. — Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры) на пасаду загадчыка кафедры гісторыі СССР, БССР і замежных краінаў. Гэта была 3-я кафедра гісторыі БССР у тагачаснай Беларусі. Цяпер, пасля перафармаванняў, яна называецца кафедрай гісторыі Беларусі і музеязнаўства. У 1979 г. атрымаў вучонае званне дацэнта. У 1985 г. абараніў (без навуковага кансультанта) ў Вільні дысертацыю на ступень доктара гістарычных навук на тэму "Сацыяльна-эканамічнае развіццё прыватна-ўладальніцкіх гарадоў Беларусі ў XVI — XVIII стст." У дысертацыі Анатоль Грыцкевіч разглядаў і становішча прыватна-ўладальніцкіх гарадоў Літвы. ВАК СССР у Маскве надаў яму доктарскую ступень у 1986 г. У 1987 г. атрымаў вучонае званне прафесара.

З 1996 г. да 2000 г. быў таксама дырэктарам навукова-даследчага Інстытута Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (ў Менску). У 1996 г. абраны членам-карэспандэнтам, а ў 1999 г. — акадэмікам (правадзейным сябрам) Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі (Масква). У 1998 г. Міжнародным Кембрыджскім біяграфічным цэнтрам за навуковыя дасягненні прызнаны "чалавекам года". З 1990 г. Анатоль Грыцкевіч — правадзейны сябра Маскоўскага гістарычна-радаводнага таварыства, з 1991 г. — сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, з 1995 г. — ганаровы сябра Таварыства беларускай культуры ў Літве. Сябра вучонай рады навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны. Адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў 1989 г. Сябра аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне" з 19.X.1988 г., сябра Сойму і Паліткамітэту, старшыня камісіі па культуры БНФ. У 2001 г. спыніў сваё сяброўства ў партыі БНФ, а з 2003 г. — у грамадскім аб'яднанні БНФ у сувязі са статутнымі абавязкамі прэзідэнта (з 2003 г. — кіраўніка) Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне Беларусаў Свету "Бацькаўшчына", якія не дазваляюць прэзідэнту ЗБС "Бацькаўшчына" ўдзельнічаць у палітычных партыях і палітычных арганізацыях. З 1992 г. Анатоль Грыцкевіч — старшыня Згуртавання беларускай шляхты. 29 ліпеня 2000 г. быў старшынём Усебеларускага з'езду за незалежнасць і ва ўрачыстых абставінах падпісаў Акт аб незалежнасці Беларусі.

Кірункі навуковай дзейнасці. Найперш — гэта працы па гісторыі Беларусі феадальнага перыяду. Даследчыка цікавяць прыватнаўладальніцкія гарады як спецыфічная з'ява ў гісторыі Беларусі, развіццё рамёстваў, мануфактур, гандлю. Ён вывучаў сістэму кіравання і самакіравання гарадоў, іх тапаграфію. Упершыню ў беларускай гістарыяграфіі Анатоль Грыцкевіч пачаў пісаць пра абарончыя збудаванні старажытных гарадоў, пра іх апалчэнні "міліцыйнага" тыпу (працы 1970 і 1975 гг.). Таксама ўпершыню ён увёў у беларускую гістарыяграфію вызначэнне Рэчы Паспалітай як федэратыўнай дзяржавы дзвюх паўнапраўных дзяржаў — Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага (БелСЭ, т.9, 1973). Анатоль Грыцкевіч адным з першых пачаў пісаць адмысловыя пра-цы па палітычнай і вайсковай гісторыі Беларусі XIV — XVIII стст. Тут і даследаванні пра бітвы пад Грунвальдам і Оршай, і артыкулы пра знешнюю палітыку і геапалітычнае становішча Вялікага Княства Літоўскага, у якім (вучоны ўпершыню даводзіць гэтую думку на падставе крыніц і скрупулёзных падлікаў) беларускія феадалы займалі вельмі важнае месца. Гэта дазваляе называць нашу супольную дзяржаву Беларуска-Літоўскім гаспадарствам. Такую канцэпцыю вучоны адстойваў на міжнародных форумах у 1992 і 1998 гг.



*Анатоль Грыцкевіч у 1977 г.*

Ёсць у Анатоля Грыцкевіча шэраг публікацый па гісторыі беларускіх татараў, пра якіх ён упершыню ў гістарыяграфіі пачаў пісаць з 1981 г. (пасля працяглага перапынку згадак пра іх у 50 гадоў).

Другі кірунак навуковай дзейнасці — гісторыя Беларусі часоў барацьбы за незалежнасць у 1918—1920 гг. Даследчыка цікавяць Слуцкі збройны чын 1920 г., паход генерала С. Булак-Балаховіча на Палессе, дзейнасць беларускіх палітычных партый у гэты перыяд, беларуска-літоўскія ўзаемадачыненні 1918—1920 гг. і, зразумела, утварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.

Яшчэ адзін кірунак — гісторыя беларускай культуры. Тут, найперш, трэба згадаць працы пра Францішка Скарыну і Івана Фёдарава (яго беларускае паходжанне), пра ролю выхадцаў з Беларусі ў грамадска-палітычным жыцці Маскоўскай дзяржавы ў XV — XVI стст.



*Анатоль Грыцкевіч і Зянон Пазняк на Сойме БНФ. 19.8.1993 г.*

Больш за сотню артыкулаў прысвечаны генеалогіі беларускіх і літоўскіх магнацкіх і шляхецкіх родаў, уключна з уласным радаводам, які ён прасачыў з XVI ст. Аўтар гістарычных нарысаў пра Слуцк і родную Случчыну, якім прысвяціў некалькі кніг і шмат артыкулаў.




*Анатоль Грыцкевіч на Сойме Згуртавання беларускай шляхты. 1.11.1992 г.*

Анатоль Грыцкевіч — вядомы гісторык рэлігіі, цэркваў у Беларусі, найперш, гісторыі Праваслаўнай, Рыма-Каталіцкай, Уніяцкай, а таксама і Пратэстанцкіх цэркваў. Адна з яго вялікіх прац па гэтай праблематыцы была выдадзена на англійскай мове ў Рыме (1992 г.).

Шмат працуе для энцыклапедычных выданняў. У Беларускім фондзе культуры, дзе ён узначальвае камісію "Славутыя імёны Бацькаўшчыны", пад аднайменнай назвай у 2000 і 2003 гг. выдаў дзве кнігі, у якіх змешчаны біяграфіі вядомых ці малавядомых беларускіх дзеячаў культуры, навукі, дзяржаўных, вайсковых.

Анатоль Грыцкевіч мае 1128 навуковых публікацый. Ён — удзельнік міжнародных навуковых канферэнцыяў у Польшчы, Літве, Украіне, Славакіі, Англіі, Нямеччыне, Угоршчыне, Расіі, Італіі і Ватыкане.

Жыве ў Менску. Працуе загадчыкам кафедры гісторыі Беларусі і музеязнаўства ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры.

**Даведка складзена на аснове артыкулаў.**

1. Мальдзіс А. Прафесар Анатоль Грыцкевіч // Анатоль Пятровіч Грыцкевіч: Бібліяграфічны паказальнік. Мн., 1994.

2. Кушнер В., Гілеп У., Мальдзіс А. Гісторыі сумленны знаўца // Беларускі гістарычны часопіс, 1999, № 1, С. 87 — 90.

3. Вяроўкін-Шэлюта У. Грыцкевіч А.П. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мн., 1996. С. 165.

4. Грыцкевіч А.П. Беларуская энцыклапедыя. Т. 5. Мн., 1997. С. 486.

5. Кто есть кто в Республике Беларусь. Люди дела. Мн., 1999 , С. 261.

6. Кто есть кто в Беларуси. Мн., 2001. С. 77-78.

7. Кто есть Кто. Деловой мир СНГ. Вып. 2. Мн., 2002. С. 98-99.

*Сакратарыят ТБМ.*





# Адзін з братоў Грыцкевічаў

Браты Грыцкевічы ў мяне ўжо даўно, ледзь не з першых сустрэч у шасцідзесятых гадах мінулага стагоддзя, асацыіруюцца з братамі Луцкевічамі. І не толькі па гукаваму падабенству прозвішчаў, іх прыдатнасці для рыфмавання. Але і па ўнутранай сутнасці.

Найперш, Анатоль і Валянцін Грыцкевічы падобныя да Івана і Антона Луцкевічаў, так бы мовіць, у тыпалагічным плане, як патрыёты, адраджэнцы. Сваёй любові да Беларусі і асабліва да роднай Случчыны яны не хавалі, кіраваліся ёю, як у савецкія часы, калі гэта істотна шкодзіла асабістай кар'еры, прасоўванню ўверх па навуковай лесвіцы, так і цяпер, калі гэта зноў не аднаму муляе вока. Іншыя мяняюцца, прыстасоўваюцца да абставін. Браты застаюцца нязменнымі. Раслі, сталелі, але заставаліся самімі сабой.

Потым браты Грыцкевічы нагадваюць братоў Луцкевічаў энцыклапедычнасцю сваіх ведаў і разнастайнасцю сваёй дзейнасці. Пералічыць усе іх дэфініцыі — нялёгкая справа. Нават калі глядзець праз прызму адукацыі. Абодва канчалі па некалькі вышэйшых навучальных установ: медыцынскую, замежных моваў, але раней або пазней прыходзілі да яе вялікасці Гісторыі. Анатоль — кандыдат гістарычных і доктар тых жа гістарычных навук, нязменны і незаменны загадчык кафедры гістарычных дысцыплін Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры. Валянцін спачатку практыкаваў як лекар, абараняўся на ступень кандыдата медыцынскіх навук (але па гісторыі медыцыны). Аднак у Санкт-Пецярбургскім (раней Ленінградскім) універсітэце (раней — інстытуце) культуры выкладаў гісторыю музейнай справы, гэтай жа справе прысвечана яго доктарская дысертацыя, якую ён у мінулым годзе паспяхова абараніў у расійскай паўночнай сталіцы. Дарэчы, як і братам Луцкевічам, музеязнаўства, тэарэтычнае і практычнае, — звычная, штодзённая сфера дзейнасці і для Анатоля. На яго кафедры існуе такая спецыялізацыя. І як старшыня дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі я некалькі гадоў запар меў гонар і прыемнасць пераконвацца, што будучыя музейныя работнікі Беларусі выходзяць адтуль добра падрыхтаванымі як па асноўных дысцыплінах (яны чытаюцца тут і прафесарам Анатолем Грыцкевічам, і дацэнтам Алегам Трусавым, старшынём Таварыства беларускай мовы), так і па... беларускай мове. Так-так, усе выпускнікі, нават тыя, што прыехалі з Расіі і на першым курсе не маглі звязаць і двух беларускіх слоў, адказвалі на выпускных экзаменах без "трасянкавых" канфузаў, а некаторыя — нават з бляскам, з выкрунтасным выкарыстаннем даўнейшай лексікі. Частка выпускнікоў заставалася ў магістратуры. Потым, магчыма, яны прыйдуць на змену сваім настаўнікам.

Родніць Грыцкевічаў і Луцкевічаў іх еўрапейскасць, еўрапейскае здуменне, веданне моваў. Я бачыў, як паводзіў сябе ў Рыме (у тым ліку на аўдыенцыі ў Папы Рымскага), Варшаве, Любліне, Кіеве, Троках, што каля Вільні, іншых еўрапейскіх гарадах Анатоль Грыцкевіч: у гэтых паводзінах не было ні граму такога тыповага для беларусаў комплексу, як комплекс непаўнавартаснасці. Тое ж магу ўявіць, ужо не па асабістых назіраннях, а па водгуках прэсы, як трымаўся ў час зарубежных падарожжаў Валянцін Грыцкевіч. Дарэчы, ён і сам любіць пісаць пра беларускіх падарожнікаў, прысвяціў ім тры кнігі (адна на... літоўскай мове). А кнігу "Шляхі вялі праз Беларусь", пра зарубежных падарожнікаў, якія праязджалі па нашай краіне, мы напісалі з ім — у Ленінградзе і Менску — удвух. Ёсць у нас і сумеснае "патрыйнае" дзіця - адзін метадалагічны артыкул у маскоўскім часопісе "Советское славяноведение", які нарабіў нямала шуму сярод беларускіх гісторыкаў кансерватыўнай арыентацыі.



*Вітаўт Кіпель, Анатоль Грыцкевіч, Валянцін Грыцкевіч, Адам Мальдзіс. Ісłач (каля Ракава), 2-гі кангрэс Беларускага ПЭН-цэнтру, 3.9.1995 г.*



*Анатоль Грыцкевіч, Алег Трусаў, супрацоўнікі кафедры гісторыі і музеязнаўства ў музеі пад адкрытым небам. Травень, 2002 г.*



*Уладзімір Вішнеўскі, Анатоль Грыцкевіч, Георг Скрыпнічэнка на 50-годдзі Слуцкага музея. Лістапад, 2002 г.*



*Ян Матусевіч, Лявон Калядзінскі, Анатоль Грыцкевіч, Васіль Быкаў. Прысяга на Пляцы Незалежнасці 8.9.1992 г.*

І, урэшце, братоў Грыцкевічаў яднае (а розніць ад братоў Луцкевічаў) іх занятак дыяспарай. Анатоль па выбару суайчыннікаў узначальвае Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", а Валянцін кіруе ў Санкт-Пецярбургу беларускім зямляцтвам. Да таго ж абодва яны сябры Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, прымаюць удзел у яе кангрэсах і канферэнцыях.

Што ж розніць братоў Грыцкевічаў? У рэшце рэшт, мы мусім вылучыць індывідуальныя рысы Анатоля Пятровіча, бо ён якраз юбіляр, яму 31 студзеня спаўняецца 75 гадоў. Мне здаецца, што, у адрозненне ад крыху рамантычнага і летуценнага Валянціна, ён больш прагматык, практык. Вядома, ён таксама звязаны з апазіцыяй, але, я б сказаў, з апазіцыяй канструктыўнай. Ён разумее, што найперш нашай краіне патрэбна праца, "штодзённая, шэрая". І на такой канкрэтнай дзейнасць Анатоля Пятровіча канструктыўна лучыць людзей розных пераканання.

І яшчэ Анатоль Пятровіч больш увагі ўдзяляе, у адрозненне ад брата, свайму шляхецка-выбранецкаму паходжанню. Ён сур'ёзна займаецца генеалогіяй, напісаў на гэтую тэму безліч артыкулаў, чым заваяваў аўтарытэт сярод людзей "блакітнай крыві". Ён узначаліў Беларускую дваранскую зборню, якая правяла не адзін цікавы вечар.

Каб пералічыць усе навуковыя працы і грамадскія пасады юбіляра, трэба было б напісаць другі такі ж па аб'ёму артыкул. Але мяне тут выручае тое, што гэта ўжо зроблена іншымі — у нядаўніх тамах "Беларускай энцыклапедыі" і "Беларускай гістарычнай энцыклапедыі". Туды і адсылаю чытачоў, якія захочуць мець канкрэтную інфармацыю.

Тут жа мне хочацца пажадаць Анатолю Пятровічу так трымацца і надалей, у наступным дваццаціпяцігоддзі! Годна і моцна. Па-шляхецку і па-беларуску.

*Адам Мальдзіс.*

12 студзеня 2004 г. № 4
сп. П. М. Сямашку,
кіраўніку Адміністрацыі Партызанскага
раёнага г. Мінска

**Паважаны Пётр Міхайлавіч!**

12 студзеня 2004 г. я, старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў і старшыня Мінскай гарадской арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алена Анісім атрымалі пісьмовае паведамленне ад дырэктара УП ЖРЭА Партызанскага раёна г. Мінска А. В. Пракаповіча аб тым, што дамова арэнды на нежылыя памяшканні па адрасе вул. Румянцава, 13 сканчаецца 04. 03. 2003 г. і не можа быць прадоўжана з прычыны неабходнасці дадатковага размяшчэння службаў ЖЭС-12 па дадзеным адрасе. Нам прапануецца па сканчэнні вызначанага тэрміну вызваліць арандаваныя памяшканні і здаць іх згодна з прыёма-здатачным актам у ЖЭС-12.

Даводзім да Вашага ведама, што наша арганізацыя зарэгістравана па адрасе Румянцава, 13 з 1989 года, і гэты адрас вядомы не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Па гэтым адрасе зарэгістраваная Рэспубліканская, Мінская гарадская і Партызанская раённая арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Такім чынам, нам трэба мяняць тры юрыдычныя адрасы, а таксама паштовы адрас і адрас у Інтэрнэце, што патрабуе вялікіх матэрыяльных выдаткаў, і зрабіць гэта да 04.03.04 г. немагчыма.

Наша арганізацыя налічвае каля 8 тысячаў сяброў на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі і праводзіць актыўную грамадскую працу па наданні беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай. Станоўчыя адносіны да ТБМ не раз выказвалі такія ўплывовыя арганізацыі як Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь.

Дарэчы, спробы высялення нас з памяшкання па вул. Румянцава, 13 ужо былі і выклікалі адмоўны рэзананс у краіне і за яе межамі.

Паважаны Пётр Міхайлавіч, мы ведаем Вас як высокаадукаванага чалавека, дасведчанага кіраўніка і адказнага дзяржаўнага службоўца, які з вялікай павагай ставіцца да роднай беларускай мовы.

У сувязі з вышэйсказаным просім Вас адмяніць рашэнне УП ЖРЭА Партызанскага раёна і прадоўжыць дамову арэнды з Рэспубліканскай і Мінскай гарадской арганізацыямі да канца 2004 года.

Мы не сумняваемся, што Вы знойдзеце іншае памяшканне для аптымальнага размяшчэння службы ЖЭС-12 у іншым будынку.

З павагай
Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"
**Алег Трусаў.**

Старшыня Мінскай гарадской арганізацыі
ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"
**Алена Анісім.**

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Ірына Кучыц - 22000 р., Полацкі р-н.
2. Мішчук Георгі – 10000 р., г. Менск.
3. Шчэрбіч М. – 20000 р., Чэр. суп. ТБМ.
4. Чэры Алег – 20000 р., г. Менск.
5. Дзямід Мікола – 20000 р., г. Менск.
6. Калатоўкіна Л. А. – 6000 р., г. Полацк.
7. Мянькоў Юры – 5000 р.,в.Баравая Буда,Кармянскі р-н.
8. Ключнікаў Юры – 5000 р., г.Гомель.
9. Шураўскі Сяргей – 30000 р., г. Менск.
10. Шкірманкоў Фелікс – 5000 р., г. Слаўгарад.
11. Фурс Антон – 5000 р., г. Паставы.
12. Івашкель Ніка – 1000 р., г. Менск.
13. Жучкова Наталля – 5000 р., г. Менск.
14. Казлоўская Іна – 1400 р., г. Менск.
15. Комель Генадзь – 5000 р., г. Менск.
16. Васіль Петрукович – 11000 р., г. Менск.
17. Дуброўская М. – 5000 р., г. Менск.
18. Зарэцкая Вера – 20000 р., в. Старое Сяло Берасц. р-н.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

# Зварот

## ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

**Грамадзяне Беларусі!**

Над ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны", якое бароніць лінгвістычныя правы чалавека, выступае за наданне беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай, упаравень з афіцыйнымі структурамі стаіць на варце нацыянальнай бяспекі краіны – навісла рэальная пагроза ліквідацыі.

Выканаўчая ўлада Партызанскага раёна адмовіла нам у арэндзе памяшкання на 2004 год і не прапанавала ўзамен нічога іншага. Згодна з іх рашэннем Таварыства павінна вызваліць памяшканне па вул. Румянцава, 13 да 04.03.04 г. У выпадку высялення грамадскае аб'яднанне губляе юрыдычны адрас трох сваіх арганізацый: Рэспубліканскай, Менскай гарадской і Партызанскай раённай, што можа стаць падставай для закрыцця Таварыства беларускай мовы.

Звяртаемся да ўсіх, каму не абыякавы лёс беларускай мовы, выказаць уладным структурам, у першую чаргу, старшыні Менскага гарвыканкама Міхаілу Паўлаву свой пратэст супраць беспадстаўнага высялення адной з важных для існавання незалежнай беларускай дзяржавы грамадскіх арганізацый нашай краіны.

Прынята на Сакратарыяце ТБМ 13.01.04 г.

**Паўлаву Міхаілу Якаўлевічу**
Старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта
220050, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 8

Мы грамадзяне Рэспублікі Беларусь, занепакоеныя фактам высялення ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" з памяшкання па вул. Румянцава, 13, якое яно займае з 1989 года, з моманту свайго заснавання.

Мы прапануем Вам, шаноўны Міхаіл Якаўлевіч, паспрыяць адмене неабгрун-таванага рашэння мясцовай улады Партызанскага раёна г. Мінска і захаваць згаданае вышэй памяшканне за цэнтральнай сядзібай буйнейшай грамадскай арганізацыі, якая спрые развіццю дзяржаўнай беларускай мовы і абараняе лінгвістычныя правы грамадзян Беларусі.

| № | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Хатні адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | |
| 2 | | | | |
| 3 | | | | |
| 4 | | | | |
| 5 | | | | |
| 6 | | | | |
| 7 | | | | |
| 8 | | | | |
| 9 | | | | |
| 10 | | | | |
| 11 | | | | |
| 12 | | | | |
| 13 | | | | |
| 14 | | | | |
| 15 | | | | |

Ванда Грамбецкая

# Батанік Вялікага Княства

## Станіслаў Баніфацы Юндзіл (Дунін-Юндзіл, 1761-1847)

*Споўнілася 75 гадоў з дня заснавання Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, але беларуская навука ў шырокім значэнні гэтага слова пачалася задоўга да заснавання акадэміі. У рэдакцыі газеты "Наша слова" сабраўся шэраг матэрыялаў пра беларускіх вучоных, якія некалі закладвалі падмуркі беларускай навукі.*




***Перад самым Новым годам сумеснымі намаганнямі Камітэта гісторыі навукі і тэхнікі Польскай акадэміі навук і Таварыства польскай культуры на Лідчыне выйшла кніга Ванды Грамбецкай пра заснавальніка беларускай батанікі Станіслава Баніфацыя Юндзіла. Кніга выйшла на польскай і беларускай мове пад агульнай рэдакцыяй доктара Ірэны Стасевіч-Ясюковай. З беларускай часткі гэтай кнігі мы і вырашылі пачаць цыкл публікацый пра нашых вучоных.***

*(На вокладцы кнігі гравюра на сталі А. Аляшчынскага "Ст. Б. Юндзіл на фоне панарамы Батанічнага саду.")*

### 1. Цяжкі пачатак.

"Батаніка, гэтая найпрыгажэйшая частка натуральнай гісторыі" – так пiша ў праграме лекцый пра сваю галіну навукі, якой прысвяціў усё жыццё, Станіслаў Баніфацы Юндзіл, славуты сын Лідскай зямлі, прафесар Віленскага універсітэта ў 1802-1824 гг. У роднай старонцы ён распачаў сваю прыгоду з батанікай, пра якую заўсёды пісаў з захапленнем яе прыгажосцю і карыснасцю для чалавека – як у "Дзённіку", так і ва ўступах да сваіх шматлікіх кніг. Калі б ён ні быў на Лідчыне - ці як вучань, ці як настаўнік - заўсёды аддаваўся вывучэнню раслін і прысвечаных ім прац. Вынікам яго самастойнай адукацыі было ***"Апісанне дзікарослых раслін у правінцыі ВКЛ, зробленае паводле сістэмы Лінея К. Б. С. Юндзілам"*** – першая навуковая, прагрэсіўная (як на тыя часы) флора аднаго з рэгіёнаў Рэчы Паспалітай. Яна выйшла ў Вільні ў 1791 г. і адкрыла аўтару дарогу на універсітэцкую кафедру.



OPISANIE ROSLIN

W PROWINCYI W.X.L.

NATURALNIE ROSNĄCYCH

WEDŁUG UKŁADU

LINNEUSZA,

PRZEZ

X. B.S. JUNDZIŁŁA S.P.

w WILNIE 1791.

W Drukarni J. K. y Rzeplitey

u XX. Piarow.

Апрацоўка гэтай кнігі мела вялікае значэнне для нашай навукі. Напрыканцы XVIII ст. у Рэчы Паспалітай фармуецца новая батаніка, а 1781-1791 гг. – гэта сапраўдны пералом, хуткае развіццё і далучэнне да еўрапейскай навукі. Вельмі значным з'яўляецца 1785 г., калі выходзіць першы польскі падручнік батанікі – "Батаніка для нацыянальных школ", які напісаў Кшыштаф Клюк(1). Ён створаны на польскай мове, карыстаецца прыкладамі родных раслін, уводзіць польскую тэрміналогію. Адначасова, у тым жа годзе, Юндзіл стварае першы школьны дыдактычны сад. Далейшае развіццё навукі звязана з узнікненнем літаратуры на польскай мове, а адным з піянераў гэтага працэсу быў Ст. Б. Юндзіл. Значэнне працы Юндзіла для нацыянальнай культуры адзначыў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі(2), які ўзнагародзіў вучонага медалём MERENTIBUS. Пра тое, наколькі тая флора была патрэбная, сведчыць спіс падпісчыкаў – было іх больш за сто, сярод іх былі вядомыя вучоныя і звычайныя землеўладальнікі, урачы, дамы, якія цікавіліся батанікай. Гэтая кніга з'яўляецца - як на свае часы - сучасным выданнем, яна разышлася па свеце, і сёння, нягледзячы на тое, што сталася рэдкасцю, можна знайсці яе ў шматлікіх бібліятэках Польшчы, а таксама за мяжой.

Станіслаў Баніфацы Юндзіл нарадзіўся ў Ясеньцах (Лідскі павет) у 1761 г. у Бенедыкта **Дуніна-Юндзіла** і Ружы з дому Даўгялаў. Гэта было асяроддзе дробнай шляхты. Дзяцей у сям'і было шмат, і хлопчык не меў шанцу атрымаць вышэйшую адукацыю, пра якую марыў, маючы вялікія здольнасці. Аднак замілаванне да навукі і мудрая самаадукацыя дапамаглі яму набыць выдатную эрудыцыю і павагу ва універсітэцкім асяроддзі. Аднак пакуль гэта сталася, малады Юндзіл атрымаў пачатковую адукацыю спачатку ў школе, а потым (з 14-ці гадоў) у піярскіх(3) школах Ліды, Шчучына і Любяшова.



*"Лебедзь" - герб роду Юндзілаў*

Ён рана звязаў свой лёс з піярскім ордэнам, што тлумачыць перспектывай атрымаць адукацыю. У "Дзённіку" ён пісаў, што гэтае рашэнне дало магчымасць рэалізаваць планы навуковай працы ў Вільні. Гэта было правільнае рашэнне. Умовы накіравання маладых адэптаў на працу ў школах дазвалялі лепш пазнаваць ваколіцы і іх асяроддзі, сярод якіх некаторыя былі вельмі творчыя. Такім чынам Станіслаў Баніфацы ў 1777 годзе распачаў паслушніцтва, а ў 1779 г. прыняў пострыг з часовым вызваленнем ад захавання манаскага ўкладу ў сувязі з маладым узростам. З гэтага моманту ў яго жыцці перапляталіся перыяды настаўніцкай працы і вучобы. У ордэне ён атрымаў сярэднюю адукацыю падчас вучобы ва ўзгаданых вышэй школах Ліды, Шчучына і Любяшова. У 1781 быў накіраваны на двухгадовыя філасофскія ордэнскія курсы, а потым – на тэалагічныя (багаслоўскія). Аднак у 1781 г. у краіне адбываецца пералом у галіне адукацыі. У Вільні адчыняецца галоўная школа Вялікага Княства Літоўскага (універсітэт), дзе паўстае кафедра прыродазнаўства. Выкарыстоўваючы кожную магчымасць, Станіслаў Б. Юндзіл слухае лекцыі вядомых прафесараў і паглыбляе сваю адукацыю. Яго цікавяць батаніка, заалогія, хімія. З цягам часу ён набывае ў гэтых галінах вялікую эрудыцыю.

На Лідчыне Юндзіл знаходзіўся ў 1785-1789 гадах. Пасля настаўніцкай дзейнасці ў піярскай школе ў Расеніцах, куды яго накіравалі адразу пасля заканчэння вучобы ў Любяшове, а потым у Вільні, ён стаў настаўнікам у Шчучыне. Акрамя гэтага, кіраўніцтвам ордэна ён быў прызначаны гувернёрам у сям'ю Сцыпіёнаў(4) – апекаваўся маладымі студэнтамі, як у Шчучыне (падчас канікул), так і ў Віленскім універсітэце (у тыя часы такія патрабаванні мелі універсітэцкія ўлады ў сувязі з маладым узростам абітурыентаў). Свае абавязкі ў доме Сцыпіёнаў Станіслаў Баніфацы цаніў высока, пра што прыгадвае ў "Дзённіку". Ён піша, што культурнае асяроддзе магнацкага двара дазволіла яму набыць распазнанне ў этыкеце, пазбыцца правінцыйнасці ў мове і авалодаць пэўнай смеласцю ў зносінах з высокапастаўленымі асобамі. Безумоўна, усё гэта спатрэбілася маладому вучонаму, калі лёс сутыкнуў яго з вядомымі людзьмі свайго часу. Падчас побыту ў тым невялікім мястэчку, якое акаляла прыгожая прырода, Станіслаў Баніфацы выконваў настаўніцкія абавязкі і працаваў у галіне батанікі. Шчучын быў значным этапам на навуковай дарозе гэтага прыродазнаўцы, які тут, у глыбокай правінцыі, распачынаў шлях да сваёй цудоўнай навуковай кар'еры, якая была ўвенчана універсітэцкай кафедрай і сяброўствам у шматлікіх польскіх і замежных навуковых таварыствах. На гэтым прыкладзе можна ўбачыць, што шлях у вялікі свет можа весці нават з самага малога куточка, калі ёсць нешта годнае ўвагі для ахвяравання гэтаму свету. Скарбам, які Юндзіл перадаў сваім вучоным калегам, была прырода роднага краю, невядомая тагачасным батанікам, расліны, што раслі сярод палёў, лугоў і лясоў Лідчыны.

Станіслаў Баніфацы Юндзіл быў адным з першых настаўнікаў, які арганізаваў вучнёўскую працу згодна статута Камісіі Нацыянальнай Адукацыі(5). Ён быў энтузіястам гэтай рэформы і – як пісаў у "Дзённіку"- прыклаў усе намаганні, каб больш глыбока пазнаць статуты Камісіі і надрукаваныя падручнікі.

***Каментары Аляксандра Колышкі.***

*1. **Клюк Кшыштаф** (1739-1796) – натураліст, ксёндз, працы па батаніцы, заалогіі, мінералогіі і сельскай гаспадарцы. Напісаў першы польскі падручнік па батаніцы, зрабіў апісанне польскай флоры("Dykcyonarz roslinny, 1786-88)*

*2. **Панятоўскі Станіслаў Аўгуст** (1732-1798) – апошні кароль Рэчы Паспалітай (1764-95). Асоба неадназначная. Некаторыя лічаць яго разумным палітыкам, які дбаў пра культуру і адукацыю, пайшоў на рэформы і падтрымаў Канстытуцыю 3 траўня. Для іншых ён застаўся чалавекам без характару, які баяўся Расіі і ў рашучую хвіліну здрадзіў свайму краю.*

*3. **Піяры** (з лацінскага – айцы набожных школ) мужчынскі ордэн, заснаваны ў 1597 у Рыме. У Рэчы Паспалітай піяры з'явіліся ў 1642 . У ХУІІІ ст. зрабілі вельмі многа для рэформы асветы. На Лідчыне піяры дзейнічалі першапачаткова ў Балотным (Воранава), а потым – у Шчучыне і Лідзе. Пасля раздзелаў Рэчы Паспалітай дзейнасць ордэна на Лідчыне была забаронена. Сёння яны працягваюць сваю працу ў Лідзе і Шчучыне.*

*4. **Сцыпіёны дэль Кампа**, шляхецкі род на Лідчыне. Сваю радаслоўную вялі ад двараніна каралевы Боны. Найбольш вядомыя старасты лідскія Ян (?-1738), які заснаваў піярскі калегіюм у Воранаве (1735), і Ігнацы (1728-1791), які перавёў калегіюм у Ліду.*

*5. **Камісія Нацыянальнай Адукацыі**, першая ўстанова па кіраўніцтву асветай ў Еўропе. Заснавана соймам Рэчы Паспалітай ў 1773-75. ажыцявіла рэформу школ і універсітэтаў у духу ідэй Асветніцтва. Галоўнае значэнне надавалася прадметам фізіка-матэматычнага цыклу, з гуманітарных навук выкладалася польская і лацінская граматыка, геаграфія, гісторыя і інш.*

Ванда Грамбецкая

# Батанік Вялікага Княства

## Станіслаў Баніфацы Юндзіл (Дунін-Юндзіл, 1761-1847)

Негледзячы на тое, што сярод тых кніг, якімі карысталіся, быў прыгаданы ўжо падручнік ("Батаніка для нацыянальных школ" К. Клюка, Варшава 1785), малады настаўнік вырашыў, што ў Рэчы Паспалітай няма прафесійных настаўнікаў прыродазнаўства. Раней у школах не выкладалі гэтага прадмета, а Віленскі універсітэт не паспеў яшчэ выхаваць належных кадраў. Таму Юндзіл вырашыў самастойна працаваць у духу рэформы. Ён заахвоціў да працы двух іншых настаўнікаў і тры маладыя наватары зрабілі з Піярскай калегіі Шчучына адну з найбольш сучасных, як на тыя часы, школу у галіне навучання прыродазнаўству. Як ужо прыгадвалася, у 1785 годзе Юндзіл закладвае школьны батанічны сад, адзін з першых у Рэчы Паспалітай. Пра свае намеры ён піша ў "Дзённіку", гаворачы пра сад і тое, што ён першы адважыўся на выкарыстанне нагляднага метаду навучання ў батаніцы і на вырошчванне раслін, патрэбных для паказу на лекцыях.

Ён лічыў, што планаванне і рэалізацыя гэтых праектаў былі першым крокам у кірунку самастойнай навукі батанікі. Развіццё і размах яго саду апісвае праз год візітатар Францішак Бянькоўскі, сцвярджаючы, што вучні актыўна дапамагалі, а расліны раслі вельмі прыгожыя. З яго слоў утварэнне саду ажыццявіла спадзяванні, а яго заснавальніка падтрымлівала пачуццё першаадкрывальніка і тое, што ён знайшоў гэтак жа зацікаўленых супрацоўнікаў. Школьны сад у Шчучыне быў першым пачынаннем гэтага батаніка, які вельмі хутка стаў вядомы сваім спрытам у справе садаўніцтва. У будучым ён стане заснавальнікам яшчэ двух дыдактычных садоў, тым разам для вышэйшых навучальных устаноў.

У Шчучыне ксёндз Юндзіл пачынае сур'ёзна вывучаць батаніку і збіраць расліны па-навуковаму, камплектуючы свой гербарый у ваколіцах Ліды, Шчучына, Вільні. За гэтымі заняткамі прайшлі яго чатыры гады працы гувернёра ў доме Сцыпіёнаў. Да гэтых заняткаў ён рыхтаваўся вельмі старанна і сабраў належную літаратуру. Настаўнікамі будучага віленскага прафесара былі вядомыя батанікі розных стагоддзяў: Сымон Сырэніюш – польскі батанік XVII стагоддзя, Жан Батыст Лямарк(6) – французскі прыродазнаўца, аўтар навейшай "Flora Francaise" ("Флора Францыі") і Карл Ліней(7), аўтарытэт XVIII стагоддзя ў галіне прыродазнаўства, асабліва батанікі і заалогіі. Юндзіл пазнаёміўся таксама з працамі першага прафесара прыродазнаўства ў Вільні – Жыльбера(8), праца якога "Flora Lithuanica Inchoata" ("Флора літоўскія паселішчаў") была для Станіслава Баніфацыя асноўнымі ўводзінамі ў свет раслін краіны, якую ён вывучаў з такім энтузіязмам (дарэчы, Юндзіл урававаў гэтую працу ад знішчэння, таму што універсітэцкія ўлады не паклапаціліся пра захаванне спадчыны свайго першага прафесара прыродазнаўства). Усе гэтыя працы сталі асновай яго навукі, а таксама і бібліятэкі і давялі правінцыйнага настаўніка да універсітэцкай кафедры. Калі звярнуць увагу на падбор тэкстаў, можна ўбачыць, што самаадукацыя Юндзіла была ад пачатку прадумана, а дапамагала яму добрае веданне моў, атрыманае ў піярскіх школах. Надыходзіць час, калі гэты жвавы лад жыцця, зададзены ордэнскім статутам, пачынае карысна ўздзейнічаць на будучую кар'еру Юндзіла. У сувязі з пераводам са школы ў школу ён бывае ў розных ваколіцах, што дазваляе яму сабраць добры, даволі-такі разнастайны, гербарый. Падчас побыту са сваімі выхаванцамі ў Вільні – ужо універсітэцкім горадзе – ён не губляе ніводнай магчымасці ўдзельнічаць у навуковым жыцці. Яго эрудыцыя і кваліфікацыя былі адзначаны. У 1790 годзе ён распачынае лекцыі прыродазнаўства ў віленскай піярскай калегіі – гэта былі першыя лекцыі па-польску. З гэтага моманту пачынаецца ўжо несупынная навуковая праца Станіслава Баніфацыя Юндзіла ў галіне батанікі і прыродазнаўства.

### 2.Вялікае падарожжа.

10 чэрвеня 1792 г. малады прыродазнаўца, выхаваны ў паўночнай краіне, прыехаў у Вену. Ён апынуўся ў навуковым цэнтры вялікай імперыі – Аўстрыі – у склад якой уваходзілі вельмі разнастайныя геаграфічныя краіны, а багатыя калекцыі, сабраныя ў гэтым горадзе, адлюстроўвалі не толькі разнастайнасць прыроды гэтага краю, але і дасягненні ў пазнанні свету еўрапейскімі вучонымі апошніх стагоддзяў. Гэта датычыла найперш цудоўных паркаў, сярод якіх на першым месцы былі вядомы не толькі калекцыямі, але і батанічнымі традыцыямі парк у Шоэнбруне. У гэтым навуковым цэнтры былі таксама заалагічны і мінералагічны кабінеты. Венскія калекцыі, акрамя экзатычных экзэмпляраў, мелі шмат матэрыялаў з Аўстрыі, Венгрыі, Славакіі, Чэхіі і Галіцыі – з далін і гор. Усё гэта было адкрыта для Ст. Б. Юндзіла, які, не адкладваючы, знаёміўся з усім тым навуковым багаццем, якое Аўстрыя магла яму прапанаваць.

Мэтай, якую ён сабе паставіў, было атрыманне ўсебаковай прыродазнаўчай адукацыі, якая б дапамагла яму атрымаць кафедру батанікі ў Віленскім універсітэце. Стыпендыю Камісіі нацыянальнай адукацыі Юндзіл атрымаў пасля доўгіх намаганняў у Варшаве, абыходзячы Вільню, адносіны з якой складваліся не найлепшым чынам. Побыт за мяжой, які павінен быў, як і іншыя навучальныя паездкі, доўжыцца 2-3 гады, расцягнуўся на значна больш час у сувязі з палітычнымі здарэннямі. Гэтыя падзеі працягнулі час побыту ў Аўстрыі і выклікалі фінансавыя праблемы. Аднак будучы віленскі прафесар, не пабаяўшыся гэтых цяжкасцяў, з энтузіязмам вывучаў усе раздзелы прыродазнаўства, стаў усебаковым эрудытам, атрымаў шмат практычных дасведчанняў, асабліва ў садоўніцтве, а таксама набыў важныя знаёмствы ў свеце навукі і сярод палякаў, якія былі ў той час у Вене. Гэтыя знаёмствы былі плённымі ўсё жыццё, а большасць пазнаных у той час суайчыннікаў дапамагала Юндзілу ў першы цяжкі перыяд працы ў Вільні.

Навуковае падарожжа было падрабязна апісана Юндзілам у "Дзённіку", што пацвярджае важнасць гэтай падзеі для вучонага. Дарога вяла праз Кракаў, дзе Станіслава Баніфацыя прымаў і суправаджаў па горадзе і ваколіцах Францішак Шэйдт(9), прафесар прыродазнаўства ў Кароннай Галоўнай Школе (адпаведнік універсітэта). Юндзіл наведаў там батанічны сад, прыродазнаўчыя кабінеты і бібліятэку. Гэта быў першы пазнаны па-за Вільняй універсітэцкі горад, у якім прыродазнаўчыя навукі мелі даўнія традыцыі і добрае заплечча. Кракаўскі сад быў падчас кіраўніцтва Шэйдта ў росквіце. У ім была вялікая колькасць раслін, аранжарэі з трапічнымі раслінамі, дзе вырошчвалі нават банан, што было вялікай сенсацыяй. Аднак размахам Кракаў не мог раўняцца Вене.

Падчас побыту за мяжой Юндзіл прысвяціў сябе перад усім батаніцы. Ён вывучаў сабраныя ў венскіх садах расліны. У першым летнім сезоне ён нават пасяліўся паблізу каралеўскіх садоў у Шоэнбруне, каб мець магчымасць, не губляючы часу на дарогу, з раніцы вывучаць гэтыя цудоўныя калекцыі. Гэты сад быў заснаваны ў 1705 годзе і лічыўся, побач з Jardin de Roi (каралеўскі сад) у Парыжы і Kew пад Лонданам, адным з найцудоўнейшых навуковых садоў у Еўропе. У Вене Юндзіл пазнаў таксама славутага батаніка Юзафа Жаквіна, аўтара шматлікіх прац, паміж іншым "Flora austriaca" ("Аўстрыйская флора", Вена, 1773-1778, 1-5 том). Ю. Жаквін быў у тыя часы дырэктарам студэнцкага саду, які не мог раўняцца з багаццем калекцыі Шоэнбруна, але раней кіраваў каралеўскім садам. Ён вельмі прыхільна ставіўся да маладога паляка і быў для яго выдатным настаўнікам у карыстанні навуковымі калекцыямі Вены і батанічных экскурсіях па ваколіцы, падчас якіх вывучалася флора Аўстрыі. Карэспандэнцыя Юндзіла з Жаквіным доўжылася шмат гадоў. Побыт стыпендыята не абмежаваўся самой Венай і яе ваколіцамі, ён наведаўся ў Прагу і Дрэздан. У Празе сустрэўся з Вілібальдам Шмідтам, аўтарам "Flora Bohemica" ("Чэшская флора", Прага 1793-1794), вывучаў расліны Саксоніі, Аўстрыі і Чэхіі. Юндзіл, які ўжо сам апрацаваў флору свайго рэгіёну (Літвы), у кантактах з іншымі вучонымі мог параўноўваць уласныя навуковыя дасягненні, атрыманыя шляхам самаадукацыі, з прафесійна апрацаванымі выданнямі. Не забываў ён знаёміцца з калекцыямі айчынных і экзатычных раслін у славутых садах, як універсітэцкіх, так і прыватных, і рабіў гэта ў кожным з пазнаных гарадоў. Яго цікавілі таямніцы гадавання розных гатункаў, новыя дасягненні ў будове адпаведных для кожных раслін (трапічных, субтрапічных і іншых) аранжарэй. Таму ў хуткім часе ён стаў добрым спецыялістам у гэтай важнай для дзейнасці батаніка – будучага універсітэцкага прафесара – галіне. Набытыя веды і замілаванне да працы ў батанічных садах паспрыялі яго пазнейшым дасягненням яшчэ ў Вене, але перад усім – у Вільні. Гэта стала яго навуковай спецыялізацыяй.

У Вене Юндзіл папаўняў сваю адукацыю і ў іншых галінах прыродазнаўства. Вывучаў хімію, якой асабліва цікавіўся яшчэ ў часы навукі ў Вільні – даведаўся пра "новы метад Лявуаз'ера", а таксама шмат часу прысвяціў мінералогіі, у якой – як пісаў у "Дзённіку"- не меў адпаведнага свайм мэтам пазнання. Вучоны арганізоўваў свой час такім чынам, каб мець магчымасць больш дакладна даведацца пра самую новую ў той час тэорыю Вернэра і звязаныя з ёю матэрыялы. Прыродазнаўства, якое выкладалася тады ў Вільні, аб'ядноўвала батаніку, заалогію і мінералогію, у склад якой уваходзілі і пачаткі металургіі. Менавіта яе вывучэнню было прысвечана падарожжа ў Дрэздан і Фрэйберг, якое адбылося восенню і зімою 1793 г., падчас якога вучоны наведаў важныя металургічныя заводы і вывучаў навейшыя тэхналогіі, якія там выкарыстоўваліся.

У 1794 г. скончылася стыпендыя (у сувязі з адсутнасцю кантактаў з радзімай), і Юндзіл паехаў у Варшаву, каб знайсці сродкі на планаванае падарожжа ў Венгрыю. У Варшаве побыт прадоўжылі і даручылі новае заданне – вывучэнне арганізацыйных падстаў ветэрынарнай школы ў Вене. Арганізацыя такой навуковай пляцоўкі даўно планавалася ў Вільні, яна лічылася вельмі патрэбнай, але рэалізацыя гэтага праекту не мела вынікаў. Ст. Б. Юндзіл ажыццявіў планаванае падарожжа ў Венгрыю (па сутнасці ў Славакію, якая была адміністрацыйнай часткай Венгрыі) і там, акрамя металургіі і горнапрамысловасці (наведаў, між іншым, Шчаўніцу Баньскую і металургічныя заводы гэтай прамысловай глыбінкі), займаўся батанікай.

Ён вывучыў гербарый венгерскіх раслін (хутчэй за ўсё, і славацкіх). Гэта былі закарпацкія расліны, а значыць у параўнанні з літоўскімі – паўднёвыя, але з аднасна блізкіх краін. Іх вывучэнне было важным для будучага прафесара і навукоўца. Станіслаў Баніфацы папоўніў таксама і ўласны гербарый, які стаў потым часткай гербарыя кафедры прыродазнаўства і служыў многім пакаленням студэнтаў.

З чэрвеня 1794 па кастрычнік 1797 вучоны быў у Вене, дзе мусіў даваць сабе рады зусім адзін. Бурныя палітычныя падзеі адмежавалі яго ад Айчыны, а хаатычная арганізацыя новай адміністрацыі на адабраных землях выключала ўсялякую дапамогу. Але нягледзячы на гэта Юндзіл працягваў вывучаць прыродазнаўчыя навукі і імкнуўся выканаць даручанае яму заданне і змястоўна даведацца пра арганізацыю ветэрынарнай школы. У той жа час ён стаў знаўцам садоў у такой ступені, што яму даручылі арганізацыю саду лекавых раслін для гэтай школы, і вучоны выканаў даручэнне найлепшым чынам. Пасведчанне, якое яму выдалі, пацвярджае яго кампетэнцыю ў гэтай галіне.

У тыя цяжкія для сябе часы Станіслаў Баніфацы Юндзіл стаў знанай асобай у асяроддзі палякаў, якія ў той неспакойны час жылі ў Вене, а таксама пазнаёміўся з многімі вядомымі суайчыннікамі. Некаторыя, напрыклад, Гуга Калантай(10) і Ігнацы Патоцкі(11), дапамагалі яму атрымаць адпаведныя дакументы, патрэбныя для падарожжаў, асабліва на прамысловыя аб'екты. Завязалася таксама бліжэйшае знаёмства з Ізабэлай Чартарыйскай(12), якой ён даваў урокі, бо гэтая апантаная садоўніца імкнулася паглыбіць свае веды ў батаніцы.

*(Працяг у наст. нумары.)*

***Каментары Аляксандра Колышкі.***

*6. **Лямарк Жан Батыст Антуан** – французскі прыродазнаўца, стваральнік тэорыі развіцця жывога свету. Член Французскай Акадэміі Навук. Напісаў навуковыя працы па эвалюцыі, распрацоўку класіфікацыі раслін, палеанталогіі. Увёў падзел жывёл на пазваночных і беспазваночных, тэрмін "біялогія", апісаў шмат відаў арганізмаў.*

*7. **Ліней Карл** - шведскі прыродазнаўца, стваральнік сістэмы класіфікацыі расліннага і жывёльнага свету. Заснавальнік і першы прэзідэнт шведскай Каралеўскай АН (1739). Увёў двайную наменклатуру, паводле якой кожны від раслін і жывёл абазначаецца дзвюма лацінскімі назвамі – радавой і відавой. Стварыў класіфікацыю раслін і жывёл, вылучыў клас сысуноў (млекакормячых), да якога аднёс і чалавека.*

*8. **Жылібер Жан Эмануэль** - натураліст, хірург і анатам, доктар медыцыны. У 1775-81 арганізаваў і кіраваў Гарадзенскай медыцынскай акадэміяй. Заснавальнік акушэрскай і ветэрынарнай школ у Горадні, клінічнага шпіталя (1775-81), батанічнага саду. У 1781-83 прафесар натуральнай гісторыі медыцынскага факультэта Галоўнай Школы ВКЛ, дзе заснаваў батанічны сад. Напісаў навуковыя працы па флоры Беларусі, Літвы і Польшчы.*

*9. **Шэйдт Францішак** (1759-1807) – хімік, фізік і батанік, прафесар Ягелонскага універсітэта, ліцэя ў Крамяніцы. Адзін з першых паслядоўнікаў Лавуазе, аўтар працы аб электрычнасці ("O elektrycznosci uwazanej w cialach ziemskich i atmosferze", 1786)*

*10. **Калантай Гуга** (1750-1812) – палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, філосаф, педагог, публіцыст. Дзеяч Камісіі народнай адукацыі. Адзін з аўтараў Канстытуцыі 3 траўня 1791. Адзін з кіраўнікоў паўстання 1794.*

*11. **Патоцкі Ігнацы** (1750-1809) – палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, асветнік. Адзін з галоўных дзеячаў Камісіі народнай адукацыі, узначальваў Таварыства элементарных кніг, сааўтар Канстытуцыі 3 траўня 1791, быў адным з арганізатараў паўстання 1794.*

*12. **Чартарыйская Ізабэла** (1746-1835) – удзельніца і арганізатарка культурнага і літаратурнага жыцця, заснавальніца рэзідэнцыі ў Пулавах (аднаго з галоўных культурных асяродкаў Польшчы пасля 1800 г.), апалагетка народнай традыцыі. Займалася філантропскай і асветніцкай дзейнасцю сярод простага люду.*



№ 3 (638) 21 СТУДЗЕНЯ 2004 г. наша слова

# Канферэнцыя ТБМ у Віцебску

14 снежня ў зале беларускай літаратуры абласной бібліятэкі прайшла справаздачна-выбарная канферэнцыя Віцебскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".

Канферэнцыя абмеркавала справаздачы абласной рады і рэвізійнай камісіі.

У дакладах І. Навумчыка, Я. Тышко, выступленнях Л. Сом – старшыні Полацкай гарадской рады таварыства, Р. Лукашонак – настаўніцы з Полацкага раёна, М. Ляўковіча – мастака, дацэнта ВДУ імя П. Машэрава, Л. Нікіцінай – настаўніцы Заронаўскай школы Віцебскага раёна, С. Казловай – дырэктара Віцебскага абласнога літаратурнага музея, Ф. Сіўко – кіраўніка Віцебскай абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў і іншых дэлегатаў былі падведзены вынікі працы таварыства за апошнія гады, гаварылася аб здабытках і праблемах у пашырэнні ўжывання беларускай мовы на Віцебшчыне.

У 22 гарадах і раёнах вобласці працуюць арганізацыі і суполкі таварыства, якія аб'ядноўваюць каля 800 рупліўцаў роднага слова. Паўсюдна ідзе прапаганда беларускай літаратуры. За апошнія два гады ў розных аўдыторыях Віцебшчыны выступалі Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Вольга Іпатава, Уладзімір Арлоў, Светлана Алексіевіч, Лявон Баршчэўскі, Сяргей Панізнік і іншыя пісьменнікі з Менска.

Плённа працуюць на ніве беларускага пісьменства мясцовыя літаратары Франц Сіўко, Давід Сімановіч, Уладзімір Папковіч, Сяргей Рублеўскі, Алег Салтук, а таксама сябры абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў у Полацку, Глыбокім, Паставах.

Абласная рада выступіла з ініцыятывамі па ўвекавечванні памяці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Ўладзіміравіча Быкава, падрыхтоўцы да святкавання 80-годдзя з дня яго народзінаў. Адпаведныя прапановы былі дасланы ў адміністрацыю Прэзідэнта, Савет Міністраў, Міністэрства культуры, Віцебскі аблвыканкам і гарвыканкам. Але на наш зварот адрэагаваў толькі Віцебскі гарвыканкам.

У сувязі з гэтым канферэнцыя абавязала абласную раду разгледзець план святкавання юбілею В. Быкава, узгадніць яго з дзяржаўнымі органамі кіравання і грамадскімі аб'яднаннямі; вырашыць пытанне аб адкрыцці спецыяльнага рахунку збору сродкаў на помнік В. Быкаву і правядзенне плянэра на яго радзіме. Канферэнцыя даручыла сябрам абласной рады Міхасю Ляўковічу, Іосіфу Навумчыку, Ніне Сулецкай абмеркаваць усе гэтыя пытанні з кіраўніцтвам Віцебскага аблвыканкама і гарвыканкама.

З трывогай і заклапочаннасцю на канферэнцыі ішла размова аб праблемах беларускамоўнага навучання. Адзначалася, што ў вобласці практычна не выконваецца праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі. Толькі ў 6 раёнах і г. Віцебску ўзрос працэнт школьнікаў падрыхтоўчых класаў з беларускай мовай навучання, а ў цэлым ён зменшыўся ў параўнанні з папярэднім навучальным годам і склаў 23, 7. Удзельнікі канферэнцыі падкрэслілі, што ў Беларусі трэба лічыць усе школы беларускімі, і тыя, дзе ідзе выкладанне на рускай мове; трэба патрабаваць роўнага статусу беларускай і рускай моў у пазаўрочным школьным жыцці.

Адным з хваляўнічых застаецца пытанне аб выкарыстанні беларускай мовы ў перыядычным друку, на радыё і тэлебачанні.

У верасні 2002 года абласная рада абмеркавала гэтую праблему. Было адзначана, што наклад мясцовага друку значна большы (амаль 190 тысяч асобнікаў), чым наклад рэспубліканскіх газет, якія распаўсюджваюцца на Віцебшчыне. Таму вялікае значэнне ў сённяшняй моўнай сітуацыі мае тое, на якой мове друкуюцца матэрыялы, вядуцца мясцовыя тэле і радыёперадачы.

Абласная рада выказала падзяку рэдакцыям газет, якія друкуюцца пабеларуску. Рэдактарам усіх выданняў, кіраўнікам радыё і тэлебачання былі накіраваны адпаведныя лісты з нашым аналізам справы.

У параўнанні з мінулым годам, да большасці раённых газет, якія поўнасцю друкуюцца на беларускай мове: "Герой працы" (Шуміліна), "Родныя вытокі" (Докшыцы), "Браслаўская звязда", "Наш край" (Паставы), "Кліч Радзімы" (Шаркаўшчына), "Міёрскія навіны", "Голас Рассоншчыны" далучыліся аршанская і глыбоцкая газеты. Пабольшала матэрыялаў на беларускай мове у "Лепельскім краі", "Нашай Талачыншчыне", "Дняпроўскай праўдзе" (Дуброўна). Па-ранейшаму 90 – 95% матэрыялаў на беларускай мове ў газетах "Патрыёт" (Ушачы), "Голас Сенненшчыны", "Дзвінская праўда". На жаль "Полацкі веснік" пачаў аддаваць перавагу рускай мове. Не змянілі сваю пазіцыю выданні "Зара" (Бешанковічы), "Сцяг Перамогі" (Лёзна), абласныя газеты "Народнае слова", "Віцебскі рабочы", гарадская – "Віцьбічы".

Канферэнцыя абрала ў склад абласной рады 19 чалавек, рэвізійную камісію з 3 асоб. Старшынём абласной рады выбраны Іосіф Навумчык, намеснікам – Юрый Бабіч.

Канферэнцыя выказала падзяку ўсім рупліўцам роднага слова і звярнулася да актывістаў таварыства пашыраць яго шэрагі, правесці дакладны ўлік сяброў ТБМ, аб'яднаць усіх прыхільнікаў роднага слова. Для гэтага ствараць паўсюдна асяродкі беларускасці, супрацоўнічаць са школамі, бібліятэкамі, музеямі, рэдакцыямі газет; наладжваць імпрэзы, вечарыны, канферэнцыі чытачоў беларускай літаратуры, сустрэчы з пісьменнікамі.

***Наш карэспандэнт.***

## Пастанова

**IV справаздачна-выбарнай канферэнцыі Віцебскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны", 14 снежня 2003 года**

1. Прызнаць работу абласной рады здавальняльнай. Даклад рэвізійнай камісіі зацвердзіць.

2. Абласной, гарадскім і раённым радам, суполкам давесці да сябраў таварыства і грамадскасці "Стратэгію дзейнасці ТБМ па развіцці беларускай мовы ў XXI стагоддзі", пастановы і звароты VIII з'езда ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" (гл. газеты "Наша слова", "Новы час" за кастрычнік 2003 г.)

Актыўна рэагаваць на парушэнні ўладнымі структурамі, сродкамі масавай інфармацыі заканадаўства аб мовах і спробы яшчэ больш звузіць сферу ўжывання беларускай мовы.

3. У кожнай арганізацыі Таварыства абмеркаваць план дзеянняў па падрыхтоўцы святкавання 80-годдзя з дня нараджэння В. Быкава і ўшанавання яго памяці. Абласной радзе разгледзіць план святкавання юбілею В.Быкава, узгадніць яго з дзяржаўнымі органамі кіравання і грамадскімі аб'яднаннямі. Вырашыць пытанне аб адкрыцці спецыяльнага рахунку збора сродкаў на правядзенне плянэру і помнік В.Быкаву. Ад імя канферэнцыі даручыць сябрам абласной рады І.А.Навумчыку, М.В.Ляўковічу, Н.А.Сулецкай абмеркаваць гэтыя пытанні з кіраўніцтвам Віцебскага аблвыканкама і гарвыканкама.

4. Звярнуцца да актывістаў Таварыства пашыраць яго шэрагі, правесці ўлік сяброў ТБМ, аб'яднаць усіх прыхільнікаў роднага слова. Мэтазгодна ствараць асяродкі беларускасці, выкарыстоўваючы школы, бібліятэкі, музеі, рэдакцыі газет, наладжваць імпрэзы, вечарыны, канфе-рэнцыі чытачоў беларускай літаратуры, сустрэчы з пісьменнікамі.

5. Падрыхтаваць і накіраваць ліст біскупу Віцебскай дыяцэзіі з удзячнасцю за пашырэнне выкарыстання беларускай мовы у час набажэнстваў і пераход да вядзення дакументацыі на беларускай мове.

*Старшыня Віцебкай абласной рады ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"* *І. А. Навумчык.*

# Абласная алімпіяда па беларускай мове ў Горадні

У Горадні 8-10 студзеня 2004 г. у актавай зале тэхнічнага каледжа прыборабудавання (былое ПТВ-141) адбылося адкрыццё абласной алімпіяды па бел. мове сярод пераможцаў раённых алімпіяд школ і сярэдніх навучальных установаў Гарадзенскай вобласці.

Маладыя, прыгожыя дзяўчаты і хлопцы прыехалі ў старажытную Горадню паспрачацца за права быць лепшым у розных конкурсах па беларускай мове. Зала была ўпрыгожана кветкамі і ручнікамі. У цэнтры залы віншавальны плакат "Сардэчна вітаем удзельнікаў абласной алімпіяды па беларускай мове". У 14-30 8 студзеня на сцэну выйшлі вядоўцы (з каледжа) ў беларускіх строях, павіншавалі ўсіх удзельнікаў з адкрыццём і прадставілі ўдзельнікам алімпіяды галоўнага спецыяліста і метадыстаў абласнога ўпраўлення адукацыі. Пяцёрка хлопцаў праспявала песню на словы Ул. Някляева і музыку В. Іванова "Гуляць дык гуляць". Песня вясёлая, але лепш яе было б выканаць пасля конкурсаў. Потым быў выдатны сольны выступ па-беларуску. Пазней былі вершы і дзве рускамоўныя песні "Алеся" і "Молодость моя, Белоруссия". Песні выдатные, але на белорускай алімпіядзе дзецям (з некаторымі я гаварыў) хочацца свайго, але больш сучаснага. Магчыма выдатная "пяцёрка" з вучэльні па наступную алімпіяду падрыхтуе што-нібудзь з рэпертуару Зміцера Вайцюшкевіча, Алеся Памідорава, NRM, "Крамы", "Палаца", дзесяткаў беларускіх бардаў, а абласное ТБМ можа дапамагчы каледжу ў запрашэнні беларускіх вык-наўцаў у выбары рэпертуару. Зараз сябры ТБМ пачалі падрыхтоўку па зборы народных і сучасных бела-рускіх песень для трэцяга беларускага спеўніка.

Галоўны спецыяліст упраўлення адукацыі Прадзед Т, Р. падробязна распавяла, калі адбудзецца кожны з конкурсаў, расказала пра новые змены, што прымеркаваны да алімпіяды. Першае, гэта тое, што ўводзіцца пераходны прыз для пераможцаў. Другое што разам са школьнікамі ў гэтым годзе будуць удзельнічаць ПТВ, каледжы і інш. навучальныя ўстановы. А таксама тое, што пераможцам леташняй алімпіяды трэба ўвайсці ў пяцёрку найлепшых у гэтым годзе ў кожным класе (9,10,11), і тады яны змогуць удзельнічаць у ліку 15 чалавек ад Гарадзеншчыны ў рэспубліканскай алімпіядзе, якую плануюць правесці у Бабруйску. Летась ад Гарадзеншчыны было 12 чалавек. Старшыня журы Багдзевіч А. І. усіх павіншаваў з Калядамі і пажадаў поспехаў.

Потым былі выступы выхаваценя і дырэктара каледжа Носка А. І., якія гаварылі як сябе паводзіць у інтэрнаце і пра тэхніку бяспекі пры карыстанні эл. бытавымі прыборамі. Заключнае слова перад першым конкурсам мела Тамара Рыгораўна.

Два дні конкурсаў праляцелі хутка.

У суботу каля 11 гадзін раніцы падводзілі вынікі. Разам са старшынём журы Багдзевічам А.І. і намесніцай старшыні Руцкай А.В. былі запрошаны за стол старшыня абласной рады ТБМ Місцюкевіч А. І. і намеснік старшыні Крой А.І.

Прадзед Т. Р. абвяшчала пераможцаў, а спадары Багдевіч А. І. і Місцюкевіч А. І. уручалі дыпломы розных ступеняў і каштоўныя падарункі. Зала воплескамі вітала пераможцаў. Разам з выдатнымі кнігамі сяброў ТБМ Ул. Арлова і В. Іпатавай прывезеннымі з Менску асабіста старшынём ТБМ А. Трусавым, дзеці і настаўнікі атрымалі эл. кіпяцільнікі, эл. прйымачы, газеты "Наша слова" і беларускія спеўнікі. А маладая настаўніца з Ліды з гімназіі № 1 Велькашынская Г. А. кнігі атрымала двойчы, бо яе 2 вучні атрымалі дыплом і 1, і 2 ступеняў. ТБМ павіншавала дзяцей з перамогай. У канцы хочацца сказаць вялікі дзякуй усім добрым людзям, якія дапамаглі і дапамагаюць абласному ТБМ, а таксама рэспубліканскаму кіраўніцтву ТБМ і гал. рэдактару "Нашага слова" Ну а перамаглі і атрымалі дыпломы **1-й ступені** наступныя вучні:

1. Госьцік В. С. (г. Ліда, гімн. 1), наст. Велькашынская Г. А.)
2. Астрашэўскі С.Д. (г. Горадня, СШ 9. наст. Тарарака Р. І. )
3. Красевіч С.В. (Ашм. р-н., Навасёлкі, наст. Місюк А. В.)
4. Карп А. А. (Карэлічы, СШ 1, наст. Карп Т. І.)
5. Асташка Т.А. (Мір Карэліцк. р-на, наст. Язянчык Л. У.)
6. Смольская Т. Н. (Горадня, гімн. 1., нас. Даўлюд І. М.)
7. Мазавецкая В. Э. (Макараўцы, Берастав. р-на, наст. Мазавецкая С. І.)

**Дыпломы 2-й ступені атрымалі:**

1. Ігнатовіч С.М. (Слонім, гімн. 1, наст. Стрык А.Г.)
2. Барысевіч М.Ч. (Горадня, гімн. 1., наст. Мазурчык Г. К.)
3. Пералайка С.Н. (Горадня, ДзТЭУ, наст. Талкун Л. П.)
4. Мандзік В.А. (Ваўкавыск, педкаледж, наст. Уласенка Р. М.)
5. Запольская Т.М. (Горадня, СШ 32, наст. Бушэйка З. А.)
6. Воўкава В.А. (Горадня, СШ 26, наст. Коўшык І. І.)
7. Барысевіч В. А. (Горадня, гімн. 2, наст. Міхно Н.Ф.)
8. Панкоў А. С. (Ліда, гімн. 1, наст. Велькашынская Г. А.)
9. Макарэвіч А.Л. (Капцёўка Гарадз. р-на, наст. Абужынская Т. А.)
10. Калодка К.А. (Наваградак, СШ 5, наст. Смаляк А.К.)
11. Сташкевіч А.Я. (Солы Смарг. р-на, наст. Варкоўская С.С.)

Дыпломы **3-й ступені** атрымалі:

1. Яроміч А.У. (Ліда, СШ 9, наст. Бобрык Г. І.)
2. Кірпа Л. А. (Варняны Астрав. р-на, наст. Пацэль Г. М.)
3. Барташэвіч А.Л. (Ліда, тэхн. каледж, наст. Чарняк Т. А.)
4. Смольская А.А. (Мір Карэл. р-на наст, Бакач А. І.)
5. Бразевіч А. В. (Варняны Астрав р-на, наст. Боўша В. А.)
6. Дзешка А.В. (Вялікаберастав. СШ, наст. Болдак В. І.)
7. Тарасевіч М. І. (Першамайская СШ Лідс. р-на, наст. Яновіч Г. І.)
8. Дымчына В.Л. (Горадня СШ 10, наст. Зянькова А.Т.)
9. Лінганская Г.В. (Шчучын, СШ 2 наст. Волчак А.І.)

**Пахвальныя дыпломы** ў асобных конкурсах атрымалі.

1. Эйсмант А.В. (гімн. 1, Горадня).
2. Баярчук А.Ю. (СШ 32, Горадня).
3. Зыльман Т. С. (СШ 3, Дзятлава).
4. Шандроха І.Ч. (СШ 3, Шчучын),
5. Арбузава Н.А. (СШ Парэчча Гарад. р-на).
6. Комар Ю.Г. (СШ 8, Горадня).
7. Арціш Т. В. (СШ 5, Масты).
8. Тунєка Н.А. (СШ 2, Смаргонь).
9. Саўчук К.Л. (СШ 7, Ваўкавыск).
10. Герасімчык Н.В. (СШ8, Слонім).
11. Хлусевіч М.А. (СШ 2, Ваўкавыск).
12. Гусь С.У. (СШ 1, Ашмяны).
13. Хомбак А.А. (СШ 13, Горадня).

***Крой А. І.***
***нам. Старшыні абласной рады ТБМ.***

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 34. ГРУНВАЛЬД

Хрысцілася бы шолахам бярозкі
І абрала імя – "Зялёны лес".
Ды ля звычайнай
непрыкметнай вёскі
Сышліся Бог і чорт-галаварэз.

Адсюль данеслі нам часы старыя
Гадзіны страшнай
груганова тхло.
Сышліся тут у бойцы
дзве стыхіі,
Ім месца побач проста не было.

Стаялі пасярод балотнай твані,
Як молатамі ўзнятымі яны,
Вясны і сонца родзічы – славяне,
Тэўтоны -
лютай выкармкі вайны.

І хмар такіх не бачыла ніколі
Зямля. Які ж ён будзе, гэты гром?
На спаленых
палетках навакольных
Ўзрасталв помста,
збуджаная злом.

Яшчэ ліцьвінаў зорка
не патухла,
Лунаў чырвоны вершнік
між сваіх.
"Пагоні" беларусія харугвы
Застылі у свабоды на краі.

Бы знак мяжы пралёг
па твары кожным.
Смылелі грудзі.
Зараз вось... Хутчэй!
У гэты бой – бязлітасны, апошні
Славуты Вітаўт
вёў Літвы дзяцей.

Ягайла ж узначаліваў палякаў.
Куды яго падзеі завялі!
Маліўся перад боем ён і плакаў –
Па хрысціянскай,
пэўна жа, крыві.

А маскалі яшчэ збіралі сілы,
Ад ханскіх ачуняючы абраз.
Нат ворагамі рознымі дзяліла
З маскоўскімі падсуседзямі нас.

У вастрыё парывістае волі
Зліла "Пагоня" шэрагі свае.
Клыкі з атрутай ям
у чыстым полі
Куснулі першых вершнікаў яе.

Пунсовым, раптам,
пырснула світанне
З няспынным шалам
лютага мяча.
Там "коні аціраліся бакамі", -
Пісаў сучаснік з жахам у вачах.

Такі страшэнны завязаўся вузел.
Ужо былі не людзі ў ім – звяры.
Ускрыквалі параненыя грудзі,
Паветра цяжка харкалі віры.

Смяротныя прачэсвалі
там граблі.
Здавалася, увесь шалёны свет.
Тэўтоны ўжо імчаліся як д'яблы
Супернікам іх, дрыгуўшым,
услед.

Вось дзе яно, раз'юшанае свята,
Раадолле утрапёнаму клінку!
Спяшаліся, заўзятыя, занадта –
У лес іх заманілі і дрыгву.

Сваёй, без лат,
хапала целам сталі.
О, стомяцца ад зданяў мастакі!
Сплываючы крывёй,
насмерць стаялі
Адважныя крывіцкія палкі.

Такая часу жудасная строма –
Цяжэйшы
не прыпомніць розум груз.
За сонца і за мірны лес зялёны
Змагалася Айчына, -Беларусь!

Пакіне памяць вогненныя згадкі,
Як самае галоўнае ў жыцці.
Зямля сама трымала іх за пяткі,
На крок адзін не даўшы адысці.

Барвяныя мячоў мільгалі ўзмахі,
Смяротны ім
пракладваючы шлях.
Ужо атаку ледзь трымалі ляхі,
І вобзем грымнуў польскі сцяг!

Зямны паклон ахвярам
старашнай бітвы.
Сцярпелі што
невыцерпны напал.
Харугвы зноў выводзіў
з лесу Вітаўт
І рыцараў наўкола абступаў.

Вячэрні час ішоў да душагубаў.
І грамада апошняя славян,
Між процьмы
спатыкаючыся трупаў,
Спыніла, ўрэшцэ, ворага таран.

Было яму на славу багамолле –
Пякельная жуда, хоць і крычы.
Апошняю абдорвалі патоляй
Ашчэраныя дзіды і мячы.

Якога там душы патрэбна ладу,
Калі ўсявышні да сябе заве?
Ляжала спрэс жалезная армада
І юнгінгены палкія яе.

Ды ўжо папрацавалі ўволю.
Годзе
Жуды, забраўшай думкі ўсе...
Сышло,
Патухла на магілістым балоце
Германскае няўрымслівае зло.

Адпаў хоць гэты
для народаў клопат,
Суседа ненажэрная мігрэнь.
Надоўга неспакойная Еўропа
З жыцця яе схавала страшны цень.

Над намі ж цемра іншая навісне –
Сваёй бяды вакольнай і арды.
Прыйдуць у край
ад Волгі і ад Віслы
Заклятыя славянскія браты.

Імглу чужыны
прынясуць з сабою.
Рыхтуй, мой край,
жалобныя званы!
У розныя бакі з варожай зброяй
Сыдуць твае малодшыя сыны.

Але пакуль яшчэ была гадзіна
Славутае эпохі – са шчытом.
Спагадлівая зорка над краінай
Зялёным узыходзіла агнём.

### 35. СТРОГІЯ МУРЫ

Не, не сысці руінам прэч з гары –
Дарэмна іх завуць вятры за далі.
Сваё, напэўна, не адпільнавалі
Літоўскіх замкаў строгія муры.

Не змыецца запечаная кроў.
Яшчэ ранейшым
дыхаецца гарам.
Падобныя яны і зараз з твару
На колішніх зямлі валадароў.

Любы суровы помніць бастыён:
Бадзёра казырыліся вачніцы –
Ашчэрваліся ружжамі байніцы
Над арачак адважным ланцугом.



Шалеў крыжак,
татарын ведаў жах
І перуны гармат
дзяўблі натужна.
Ды стромкія стаялі непарушна
Асілкі-вартавыя па вуглах.

Дарэмна вораг кулаком гразіў.
Калі хістала дыму рыжай хваляй,
З-за цяжкай брамы коні вылятаглі
Баз волі застаяўшыся зусім.

### 36. КАВАЛІ

А побач калісьці ўсе мы,
Кавалкі адзінага цела,
І слугі твае, і паны –
Маліліся. Свеце наш белы.

Люцелі князі, каралі –
Шукалі хоць недзе вароты
Па кропельцы ратнай крыві
Злівалася мора народа.

І доўга такога жытла
Не будзе для "рускага" люду.
Нас Вітаўта воля вяла,
Закон непарушны Статута

Да неба узводзячы храм,
Пярэстай не бачылі былі.
Хрыстова святло напалам
У сэрцы сваім не дзялілі.

Праз гучныя цэркваў званы
Вялі гарады перазовы.
Нам грудзі дыханнем адным
Напоўніла роднае слова.

Настойліва розум брыняў –
Не трэба пра лапці ды лыка.
Пазбавіла вочы бяльма
Скарыны вялікая кніга.

Не песцілі мы міражы,
Даводзячы хату да ладу,
Яднаді майстроў кірмашы.
Умельцаў збіралі пасады.

А болей жа маці-зямля
Ўсіх нас вучыла закону.
Надзейнай і вернай была
Падлогаю роднага дому.

І зноў пакланяліся ёй,
Удзячныя сэрцам прыстанню,
Адданыя існасцю ўсёй
Айчыны-Літвы грамадзяне.

Дзяржавы буйной кавалі,
Статуцкія вольныя суддзі.
Не ляхі і не маскалі –
Планеты адметныя людзі.

Між іншых народаў і рас
Дастойныя мелі скрыжалі.
Здалёку ледзь бачылі нас,
А белымі ўжо называлі.

### 37. СОЛЬ ЗЯМЛІ

**А ўжо ў поўны рост грамадой**
**З талакой паўставалі гарачай.**
**Не былі мы тады пад Літвой,**
**Літвы соллю былі – не іначай.**

**Гарадоў мацярэлі басы,**
**Побач дужалі нівы з сяўбою.**
**Прываліла ж ліцьвінам з Русі**
**Нечакана багацце такое!**

**Не, не дзеля дзіравай страхі**
**Дбалі колісь тады аб прыстанку.**
**Не туліліся, як жабракі.**
**Да прыступкаў багатага ганка.**

**Як сапраўдная хата Хрыста.**
**Тож і наша – не ведала сценак.**
**І здабытчыка ледзь не хістаў**
**Непасільны яго абярэмак.**

**Не славянства паводцы-святлу**
**Спадзявацца на сціплую міласць.**
**Дзе было – нават гаспадару –**
**Хвалю гэтакую ўціхамірыць?**

**Перад ёй адступіў пакрысе.**
**Чым суседзяў**
**трымаць на аркане,**
**Ці не сам – з галавой абрусеў**
**На такім нашым**
**доўгім спатканні.**

**Як бы той памяркоўны айчым,**
**Не, не стаўся аматарам звадак.**
**Нашай мовай у краі, лічы,**
**Непарушны наводзіў парадак.**

Гукі спеўных яе галасоў
Сярод іншых абраў ён трывала.
А ўласнае слова лясоў
Смакам трохі грубым аддавала.

Пралягла над зямлёю мяжа.
Вяла лепшая ў неба дарога.
Спавядала жывая душа
Праваслаўнага вешчага Бога.

Краю родны, такі ты адзін,
Дзе ля сэрца –
святло й апаўночы.
Белакаменным храмам тваім
Аддаваліся ўражліва вочы.

Прасціралася чыста зямля
Шляхам разам з надзеямі ўсімі.
Пралілася, як ззяннем, здаля
Ў любых дзецях сваіх Ефрасіння.

Быў магутны раскацісты гнеў
У пагоністай слыннай дзяржавы.
Мужны продак геройскі грымеў
Ад Масквы і ажно да Варшавы.

І яго праз вякі слаўны род
Ганарлівае знаў прызначэнне.
За ўвесь ваявала Усход
Пад Грунвальдам
тутэйшае племя.

Нам залічыцца час той за два,
Каб ужо не вярнуцца ніколі.
Над балотамі ўстала Літва,
Ад славянскае сілы і волі.

### 38. ІМЯ

Чуліся адметна ў варажбе.
Аб мудроным ведалі прадмеце:
"Рускія", "русіны" – пра сябе,
"Маскалі", "маскоўцы" –
пра суседзяў.

Рурыка вялікая сям'я
Рушыла скрозь нетры і кардоны.
Ахрысціла ў слаўнае імя
Нават і далёкія плямёны.

**Свет, аднак, заблытаць захацеў**
**Тлумам берагоў сваіх туманных.**
**Цяжка выбраць рэчышча рацэ**
**Пасярод віроў неўтаймаваных.**

**Лёсаў абмінутых чарада.**
**Чым было зямлі тваёй жывіцца?**
**Гучных хваль няпэўная вада**
**Срэбра каламуціла крыніцы.**

**І млынамі замяло смугі,**
**Разгубіла ветрам блытаніны.**
**Крыўцы мы былі, палешукі,**
**Берасцейцы, рускія, ліцвіны.**

**Сціпла і тутэйшымі яшчэ,**
**Брацяй Хрыстовую зваліся.**
**Але, пэўна, усяго хутчэй,**
**Дужа не спрачаліся аб пысе.**

**Ці, магчыма, выцвіўшы душой,**
**Кім другім выцягваліся з твані.**
**Постаці, счарнеўшыяся ўжо,**
**Белымі ў замежжы дзесьці сталі.**

**Зваднічалі лях, маскаль і Рым.**
**Трэсла люд**
**пад ласкаю вяльможнай.**
**Нават не даваў дыхнуць сваім,**
**Да сябе цягнуў суседзіч кожны.**

**Ды не смакавала дужа кроў**
**У сабе ні азій, ні еўропаў.**
**Ад ксяндзоў усякіх і папоў.**
**Паглыбей хаваліся вантробы.**

**Бо нібыта, як упершыню,**
**Цяжка ім было з такімі знацца.**
**Забіраліся ў глухачыню**
**Нутраныя нашыя паганцы.**

**І аб дзверы біліся здавён**
**Адусюль разумнікі старыя.**
**Дык і Богу – колькі тых імён**
**Шпарка шарлатаны надарылі.**

### 39. ІНШАЗЕМЦЫ

Дзялілі з госцем рэкі і палі,
Не запіралі ад прышэльца брамы.
І самі іншаземцамі былі,
З далечыні
нахлынуўшы туманнай.

Згуртоўцы
сярод цемрадзі крутой.
З драпежнаю не зналіся мараллю
Сякераю гарачай і сахой
Тубыльца мірна мы заваявалі.

Яшчэ тады – пайшлі на дагавор
Пачуццяў
пераймальнаю карысцю.
Нам назвы рэк тутэйшых і азёр
Відаць, па сэрцу
вельмі ўжо прыйшліся.

Дзе б ні ступала
між дрыгвы нага,
Занадта не спяшалася заўсёды.
Здаровы сэнс зямлі – дапамагаў
Прыстойна дамаўляцца
з іншым родам.

Цураліся шаленцаў-дзецюкоў.
Не скалы паважалі, а лагчыны.
А нас, такіх лагодных дзівакоў,
Дык бедакамі кволымі лічылі.

У добрую сям'ю ўсіх тут звяло.
Трывалым прымірыла
спрэчкі выйсцем:
Гасцям раздалі кожнаму сваё,
Самі з сабою не разабраліся.

*(Працяг у наступным нумары.)*





*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

Алесь Петрашкевіч

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

***Агінскі.*** Але ж разумовая дасціпнасць — гэта мудрасць, якой не варта цурацца. Бо мудрасць, як, між іншым, лічыць той жа Жан Жак, — не што іншае, як навука аб шчасці.

***Кацярына ІІ.*** Гетман вялікі лічыць, што шчасце існуе як рэальнасць!

***Агінскі.*** Не ведаю, ваша вялікасць, не ведаю, як яно існуе, у рэальнасці ці ва ўяўленні, але я наважуся даць яго свайму ліцвінскаму ды польскаму народу, як волю і бяспеку.

***Кацярына ІІ.*** І якім жа чынам, калі не сакрэт, бо як яго даць народу расейскаму, я не ведаю.

***Агінскі*** *(рашуча)*. Я маю намер, вялікая царыца, прэтэндаваць перад соймам на карону караля і вялікага князя, да чаго вы раней ставіліся прыхільна. І чаму б урэшце яе не мець ліцвіну, а не паляку? Не думаю, што ваша вялікасць не мела б ад гэтага сваіх расійскіх выгод.

***Кацярына ІІ.*** Адкрытасцю на адкрытасць, гетман вялікі. Праўдзівае сэрдца — галоўная зброя ісціны. І заява ваша мужная. Але не будзем змешваць мужнасць з нахабствам; бо няма нічога больш не сходнага і па сваёй першакрыніцы, і па выніку.

***Агінскі.*** Між іншым, мужнасць робіць нікчэмнымі выты лёсу.

***Кацярына ІІ.*** Пахвальна, што гетман вялікі да гэтага гатовы... Скажу вам проста: я не падтрымаю Вашых намераў заняць польскі і вялікакняскі пасад. Больш за тое, я буду супраць, бо маю іншае рашэнне!

***Агінскі.*** У жыцці, як у відовішчах: вельмі дурныя людзі займаюць найвышэйшыя месцы. І чым менш заслугоўваюць дурныя атрымоўваных пасад, тым больш яны становяцца нахабнымі і спадабляюцца глупства.

***Кацярына ІІ.*** Пасадаў многа, ды таленты занадта рэдкія...

***Агінскі.*** Я не проста пра пасады, якіх, сапраўды, шмат. Я пра пасаду караля, царыца-матухна, бо аднолькава небяспечна і неразумнаму ўручыць меч і несумленнаму — уладу. І той, каго ваша вялікасць наважылася падтрымаць, пры ўладзе пакажа які ён ёсць. Каралям з палякаў у дзяржаве двух народаў заўсёды быў уласцівы дэспатызм, які душыў светлыя, справядлівыя думкі і дабрачыннасць у душах.

***Кацярына ІІ*** *(жостка)*. Я прыхільніца Дзідро, Русо, Вальтэра, Мантэск'е і спавядаю ісціну: веданне таго, якімі рэчы павінны быць, характарызуюць чалавека разумнага; веданне таго, якія ж рэчы на самай справе, характарызуюць чалавека дасведчанага; веданне ж таго, як іх змяніць да лепшага, характарызуюць чалавека геніяльнага.

***Агінскі.*** Божа барані, я не стаўлю пад сумнеў генеяльнасць вашых дарадцаў-філосафаў, але ж мы, смертныя, бачым, якімі іншыя нам здаюцца, але не заўсёды адчуваем, якімі яны ёсць.

***Кацярына ІІ.*** З гэтым можна пагадзіцца, калі гетман вялікі мяркуе пра сябе.

***Агінскі.*** Ваша вялікасць — царыца светлая, не дайце волі гневу! Памылка, з каралём польскім можа дорага абыйсціся і не толькі Польшчы, колькі Княству і Расіі. І не хто іншы, як Жан Жак Руссо казаў: тое, што з'яўляецца маральным злом, тое з'яўляецца злом і ў палітыцы. Ваша вялікасць, з гэтым нельга не пагадзіцца!

***Кацярына ІІ.*** У Расіі немалаважныя інтарэсы і ў Княстве, і ў Каралеўстве, і яна, пры выпадку, не пагдядзіць ні на якое зло, калі яно там з'явіцца.

***Агінскі.*** Вялікая царыца намякае на сілу. Але ж сіла без разумення рушыцца ад уласнай цяжкасці. А ўлада над чужым народам нетрывалая.

***Кацярына ІІ.*** Не трэба забываць, гетман: чым большая адлеглаcць паміж тым, хто прымушае і тым, хто павінен падпарадкоўвацца, тым меншае значэнне мае для першага кроў... і пот для другога. Потым, чалавек ніячэмны бывае не ад таго, што ганарысты, а ад таго, што ганарысцасць згрызае яго.

***Агінскі.*** Я чытаў пра гэта ў Мантэск'е, які, між іншым, сцвярджае, што самая жорсткая тыранія тая, якая выступае пад знакам закону і пад сцягам справядлівасці. Агінскія, якія маюць не толькі ўласную годнасць, але і падтрымку ў княстве і каралеўстве, будуць мець на ўвазе гэту акалічнасць, калі справа дойдзе да абрання караля на сойме.

***Кацярына ІІ.*** Агінскія яшчэ разлічваюць і на падтрымку караля дацкага...

***Агінскі.*** Пры неабходнасці мы ад яе не адмовімся.

***Кацярына ІІ.*** Шаноўны Міхал Казімір, каб імператрыцы расійскай не пасварыцца з слаўным родам Агінскіх, ці не лепш нам усё ж вярнуцца да арфы і паланезаў.

***Агінскі*** *(устае з крэсла)*. Сваёй прысутнасцю я стаміў вашу вялікасць, і каб заслужыць дараванне, абяцаю стварыць бадзёры марш у гонар нашай незабыўнай сустрэчы.

*З'яўляецца Цырымоніймайстар.*

***Цырымоніймайстар.*** Ваша вялікасць, палкоўнік Сувораў па вашаму загаду з'явіўся.

***Кацярына ІІ.*** Кліч палкоўніка. А вы, гетман Агінскі, будзьце мудрым: тым, хто спяшаецца, пагражае падзенне.

*Агінскі выходзіць і ў дзвярах сутыкаецца з Суворавым.*

*Сцэна зацямняецца.*

### III

*Кароль і вялікі князь Станіслаў Аўгуст Панятоўскі прымае ў сваім пакоі пасланніка Кацярыны ІІ князя Рапніна. Абодва гранічна ўзрушаны – князь непаслухмянасцю караля, а кароль — нахабствам князя.*

***Рапнін.*** Яснавяльможны кароль, вы добра ведаеце, чаго каштавала Расіі і асабіста яе імператарскай вялікасці ўзвесці вашу каралеўскую вялікасць на польскі пасад. І гетман Браніцкі, між іншым, меў абсалютную рацыю заявіць у сваім маніфесце на канвакацыйным сойме, што па ўсіх законах і па звычаях Каралеўства і Вялікага княства, роўна як і ўсіх другіх нацый, не дазваляецца трымаць раду ў сойме пад уплывам чужой зброі, і існаванне, такім чынам, сойма не законнае! Ведае ваша каралеўская светласць і пра тое, што я пад сваю адказнасць замяніў кароннага гетмана Браніцкага на Аўгуста Чартарыйскага.

***Панятоўскі.*** Дакладней — на расійскага ваяводу Чартарыйскага ты яго замяніў!

***Рапнін.*** А што, яснавальможны меў на ўвазе некага іншага?! Можа, вялікакняскага гетмана Міхала Агінскага, які чакае каралеўскай аўдыенцыі пасля мяне?! Але ці ўдалося б мне пры ім ці некім іншым, абараняючы вашу каралеўскую вялікасць, заняць Нясвіж і Слуцк, разбіць войска Радзівіла?!

***Панятоўскі.*** Усё гэта так, князь, але ж ты мне не даеш дыхнуць. А я наважыўся... Магнаты і шляхта чакаюць ад мяне рэформаў як у Княстве, так і ў Каралеўстве.

***Рапнін.*** Умацаваць уладу? Адмяніць liberum veta? Павялічыць войска?..

***Панятоўскі.*** А як жа інакш?! Кароль я ці не кароль?! Ці ты думаешь, што я не ведаю пра перамовы Расіі з Прусіяй пра ўраўнаванне правоў вернікаў грэчаскай і лютаранскай рэлігіі, так званых "дысідэнтаў" з каталікамі?! Дык сойм гэтага ніколі не падтрымае!

***Рапнін.*** Яснавяльможны кароль, я скажу шчыра, калі нашы патрабаванні адносна "дысідэнтаў" не будуць выкананы, мы ўвядзём у Рэч Паспалітую 40-тысячнае войска, а Караль Радзівіл, каб захаваць за сабою свае замкі і маёнткі, выступіць са сваім войскам на нашым баку. І каралю Станіславу Аўгусту давядзецца прасіць яе вялікасць імператрыцу Кацярыну бараніць яго. Стаўлю яснавяльможнага караля да ведама, што ўзброеныя канфедэрацыі шляхты пры падтрымцы магнатаў ужо створаны ў Туроне, Слуцку, Радаме. Іх наогул ужо больш за дваццаць, і яны ў хуткім часе будуць аб'яднаны ў Генеральную канфедэрацыю.

***Панятоўскі.*** Але ж гэта просты дыктат. Больш за тое — шантаж! Непрыкрыты шантаж! Не выпадкова ж нават кароль Прусіі кажа: ці варта ўся гэта "дысідэнцкая" справа таго, каб з-за яе ўся Еўропа зноў стала ваяваць. Нават ён, вораг наш заклятый, кажа, што расійская імператрыца не з'яўляецца гаспадарыняй Польшчы і таму не можа прымусіць паля-каў падпарадкоўвацца яе жаданням. Яе ўладанні ніхто не атакуе. А што скажа імператрыца аўстрыйская Марыя Тарэзія!...

***Рапнін*** *(спакойна)*. Шаноўны Станіслаў Аўгуст, мы не дрэнна ведаем адзін аднаго, і я абяцаю табе не перадказваць яе вялікасці імператрыцы Кацярыне перадказаныя мне словы караля Фрыдрыха і спасылку на Марыю Тарэзію. Яны заўсёды здолеюць дагаварыцца паміж сабою.

***Панятоўскі.*** За кошт Рэчы Паспалітай!

***Рапнін.*** Я гэтага не выключаю, калі паводзіны шаноўнага караля пакажуцца неадпаведнымі імператрыцы ўсяе Русі.

***Панятоўскі*** *(у роспачы)*. Усё адно, епіскап Солтык ніколі не пагодзіцца на ўраўнаванне правоў каталікаў і "дысідэнтаў".

***Рапнін.*** Епіскапа Солтыка, кракаўскага ваяводу Ржавускага і кіеўскага епіскапа Залускага я ўжо арыштаваў і пад канвоем накіраваў у Калужскую турму.

***Панятоўскі.*** Дзіва дзіўнае! Пасланнік суседняй дзяржавы дзейнічае ў маёй дзяржаве як жандар! Як акупант! Усё! Аўдыенцыя скончана! Нам няма пра што гаварыць!..

*Не пакланіўшыся, Рэпнін пакідае каралеўскія апартаменты.*

*Уваходзіць Агінскі.*

***Агінскі*** *(цёпла вітаецца з Панятоўскім)*. Чым слаўны кароль так угнявіў царскага пасланніка, што ён выскачыў, як той сабака, якога аблілі кіпнем.

***Панятоўскі.*** Я яго выгнаў... Хоць у Каралеўстве такі ж слаўны кароль, як у Княстве вялікі гетман. Ён арыштаваў самаго епіскапа Солтыка, а мне пагражае саракатысячным войскам і Генеральнай канфедэрацыяй...

***Агінскі.*** Значыцца, мне пара збіраць войска.

***Панятоўскі.*** Бадай што пара. Падымай Міхал Казімір булаву, а скрыпкі пакуль — у торбу. Будзем ваяваць с Кацярынай, а то сядзе на галаву і Каралеўству і Княству. Дарэчы, дзеля чаго яна перад соймам запрашала цябе ў Пецярбург?

***Агінскі.*** Узнагародзіла ордэнам Андрэя Першазванага, хваліла за музычныя здольнасці, паказвала свой светлы розум, без перадыху сыпала цытатамі Дзідро, Русо, Вальтэра ды іншых сваіх куміраў. Часам спасылалася на крыніцы запазычанага розуму, але больш выдавала чужое за сваё. Я прыняў яе гульню, распусціў хвост, як пава і сыпаў ёй перламі з Макіявелі, Гельвецыя, Гарацыя, Арыстоцеля, Дэмакрыта, Пратагора, Плутарха і Бог ведае яшчэ з каго. Пра што яна і не здагадвалася.

***Панятоўскі.*** Толькі і ўсяго?...

***Агінскі.*** Чаму ж! Я яшчэ граў ёй на скрыпцы, на арфе і кларнеце, а яна угаворвала мяне закінуць гетманскую булаву, трымацца за смычок і не перашкаджаць табе стаць каралём-марыянеткаю.

***Панятоўскі.*** Ты перапалохаўся за свае маёнткі на ўсходзе Княства і прыняў яе ўмовы.

***Агінскі.*** Я перапалохаўся за Княства, Станіслаў Аўгуст. І спадзяваўся толькі на тое, што ты мяне некалі паклічаш.

***Панятоўскі.*** Я цябе паклікаў, Міхал Казімір. Будзем разам утаймоўваць царыцу-матухну.

***Агінскі.*** Я толькі таму і прыйшоў, а маёнткі — справа нажыўная. Хоць Слоніма і шкада. Я там распачаў будоўлю опернага тэатра на 2500 асобаў. Ды, як ты кажаш, давядзецца пакуль — скрыпку ў торбу. А Кацярына ІІ — ханжа і прытворшчыца. Прыкрываючыся лібіральнымі фразамі і крывадушшам, эксплуатуючы цытаты еўрапейскіх філосафаў, яна творыць разгул самага нестрыманага тыранічнага самаўладдзя і агрэсіі.

***Панятоўскі.*** Я рад, Казімір, што ты гэта разумееш. Дзякуй табе, гетман вялікі, за мужчынскую вернасць. І ведаешь, апошнім часам мне не выходзіла з галавы наша апошняя сустрэча і словы тваго пляменніка. Пытаю карапуза, кім ён стане, калі вырасце, а ён мне: "Я хачу служыць сваёй Айчыне, але не хачу быць каралём, таму што людзі кажуць, што ваша вялікасць вельмі няшчасная". У дзядзьку пашоў пляменнічак Клеафас Агінскі.

***Агінскі.*** Я гэтага не выключаю.

***Панятоўскі.*** З войскам не марудзь. Іх загоны даўно ўжо на нашых межах. А то Рапнін не паводзіў бы сябе так нахабна. Калі і не пераможам, то хоць зубы пакажам.

*Сцэна зацямняецца.*

### IV

*Пакой Кацярыны ІІ. Імператрыца за праглядам папер.*

*Адчыняюцца дзверы. На парозе Цырымоніймайстар.*

***Цырымоніймайстар.*** Віца-канцлер Остарман з тэрміновымі данясеннямі з Польшчы і Турцыі!

***Кацярына ІІ.*** Прасі...

*Цырымоніймайстар выходзіць. Уваходзіць Остарман і накіроўваецца да стала імператрыцы.*

*Кланяецца. Яна мігам запрашае яго сесці ў крэсла перад сталом.*

***Остарман.*** Ваша вялікасць, з Польшчы добрыя навіны. З пераходам у шырокі наступ на Княства нашай 40-тысячнай арміі сойм даволі хутка памякчэў да нашых катэгарычных патрабаванняў і ўраўняў у палітычных правах "дысідэнтаў" з каталіцкай шляхтай. Цяпер і праваслаўныя, і пратэстанты на тэрыторыі Каралеўства і Княства маюць правы будаваць цэрквы, школы, мець свае кансісторыі, збіраць сходы, вырашаць царкоўныя спрэчкі ў змешаных судах.

***Кацярына ІІ.*** Спахапіўся яснавяльможны...

***Остарман.*** А што яму яшчэ заставалася?...

***Кацярына ІІ.*** Кароль Прусіі — што?

***Остарман.*** Трымае сябе нібы абыякавы да польскіх спраў, хутчэй за ўсё, каб не сапсаваць адносіны з аўстрыйскім дваром.

***Кацярына ІІ.*** Разумнік.

***Остарман.*** У той жа час, ваша вялікасць, вялікакняская шляхта арганізоўвае ўзброеную канфедэрацыю ў Бары начале з Юзафам Пулаўскім, які звярнуўся за дапамогай да Турцыі і Францыі. Апошняя перакапала Турцыю пачаць вайну супраць Расіі і прыслала на дапамогу канфедэратам генерала Дзюмур'е.

***Кацярына ІІ*** *(не здаволенна)*. З гэтага і пачыналі б.

*(Працяг у наступным нумары.)*

